PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (1974) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 13 САКАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Над Нараўкай.* **Фота Я. Целушэцкага**

**5 лютага гэтага года функцыянеры нараўскага Камісарыята паліцыі (чатыры асобы) увайшлі з сабакам на маладзёжную дыскатэку ў мясцовы Асяродак культуры, дзе пабілі двух удзельнікаў патанцоўкі — 16-гадовага Марыюша Х., вучня першага класа адной з сярэдніх школ у Бельску-Падляшскім, ды 27-гадовага Збігнева А., жанатага, адна дачка. Абодва — жыхары Нарвы. Марыюшу Х. лупцоўка закончылася *даволі шчасліва — усяго* боль, шок ды сінякі на целе. Збігнеў А. з лопнутым чэрапам трапіў у Гайнаўку на хірургічнае аддзяленне.**

## ЦВЁРДЫЯ АХОЎНІКІ ПАРАДКУ

### Забойны хэві-метал

Дыскатэка круцілася на ўвесь мах — расказваў Марыюш Х. Хуткая музыка да хуткага танца. Яна часта мянялася — калі нешта не падабалася, падымалася мітусня і на магнітафон ставілі іншы гурт. Цяжка сказаць, якая магла быць гадзіна — не меў я пры сабе гадзінніка. Здаецца, уключылі „Металіку". Сядзеў я з сяброўкамі якраз пры ўваходзе ў залу.

Запалілася святло, у дзвярах стаялі паліцыянты Анатоль Б. і Ежы Б. Гульня быццам перапынілася, дзе-нідзе паднялся свіст. Святло хутка згасла, паліцыянты зніклі. Прайшло, можа, імгненне, у залу вярнуўся Ежы Б., не запальваў святла, схапіў, хто яму трапіў пад руку. Папаўся я. Пацягнуў мяне праз калідор, да ўсходаў. Там стаў лупцаваць дубінкай. З падмогаю яму прыйшоў камендант Кшыштаф П. (цяпер у мяне ўражанне, што гэты апошні не надта арыентаваўся што да чаго). Адсвісталі ўдваіх, пасля чаго камендант ветлівым *spier...* адправіў мяне дахаты. Абодва былі падвыпіўшы.

Наступнага дня сабраўся я схадзіць да сябра. Давялося праходзіць міма камісарыята. Камендант навонкі гуляў з сабакам. Кідаў яму кіёк. Паклікаў мяне:

— **No jak, boli dupa?**

Болі, не болі, але я нешта яму адказаў ды запытаўся, за што ўчора атрымаў лупцоўку.

— **Za mały jesteś, abym się przed tobą tłumaczył,** — сказаў мне.

— Шкадую аднаго, — дадаў Марыюш Х., — дыскатэка была ў суботу 5 лютага, а я з візітам у лекара чакаў да серады. Мне трэба было ўсё-такі з'ездзіць у Беласток зараз у панядзелак. Сляды пабояў былі б больш неаспрэчнымі.

У сераду 9 лютага судовы лекар пасля агледзін Марыюша Х. напісаў у заключэнні пратакола медыцынскага абследавання, што сляды, выяўленыя на целе пацыента, фактычна маглі ўзнікнуць у тых акалічнасцях, якія ён называе. 10 лютага Марыюш Х. накіраваў у гайнаўскую пракуратуру скаргу. 14 лютага пракурор узбудзіў расследаванне ў гэтай справе.

### Шокатэка

29 студзеня для школьнай моладзі пачаліся зімовыя канікулы. У Нараўскім асяродку культуры прыдумалі на гэты перыяд серыю дыскатэк — у аўторкі, чацвяргі і суботы. Агулам адбылося шэсць імпрэзаў (1, 3, 5, 8, 10 і 12 лютага). Асяродак вёў статыстыку прададзеных білетаў. Праз чарговыя патанцоўкі пракацілася адпаведна 46, 75, 91, 89, 91 і 84 асобы.

— Паліцыю, — сказала Ірэна Ш., кіраўнічка Нараўскага асяродка культуры, — паведамілі мы 1 лютага, што на працягу двух тыдняў будуць у нас адбывацца дыскатэкі. А так, на ўсякі выпадак. Усё ж такі, згуртаванне. Паводле выказванняў Анны А., Лілі Х. і Алы С. — працаўніц Асяродка культуры, якія абслугоўвалі дыскатэкі, імпрэза 5 лютага не вылучалася нічым асаблівым. Паліцыя, за выключэннем гэтага аднаго разу, у Асяродак не заходзіла. Бывала, пад'едуць на аўтамашыне пад будынак, пастаяць хвілю ды ад'едуць. У асяродку гуляла моладзь сярэдніх школ. Паводзіла сябе культурна. Калі хто і быў пасля піва, то не выскакваў з гэтым. Папяросы курыць выходзілі на калідор або ішлі на панадворак.

Зала, у якой праходзілі дыскатэкі, знаходзіцца на другім паверсе Асяродка. 5 лютага каля 20 гадзіны Ліля Х. і Ала С. лаваю загарадзілі вылёт усходаў, пакідаючы вызкае горла, ды пачалі продаж білетаў (6 тысяч ад асобы). Некалькі хвілін пасля дванццатай Ала С. пазваніла ў камісарыят з руцінным паведамленнем пра дыскатэку.

— Колькі чалавек?

☞ *Працяг на стар. 4*

## НЕ ЗНАХОДЖУ АДПАВЕДНЫХ СЛОЎ

**Інтэрв'ю з консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку ІГАРАМ ХАДАСЕВІЧАМ**

„Ніва": — *Апошнім часам беластоцкая прэса пачала пісаць пра „празмерныя патрабаванні беларусаў" адносна будынка для Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Ці можаце прадставіць сутнасць гэтых патрабаванняў?*

Ігар Хадасевіч: — Згодна з падпісанымі Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча пагадненнямі, абодва бакі павінны прадставіць партнёру адпаведныя будынкі пад консульствы. У Беластоку такі будынак павінны былі знайсці гарадскія ўлады.

*— Адпаведны будынак быццам бы быў прадстаўлены Вам уладамі горада.*

— Улады горада Беластока прапанавалі толькі часовае памяшканне на вуліцы Варынскага. Мы прынялі гэтую прапанову пры ўмове, што апрача памяшканняў пад бюро на I паверсе, дзеля патрэб консульства будзе таксама перададзенае адно жыллёвае памяшканне на II паверсе.

*— Дык у чым справа?*

— Ужо пасля падпісання дамовы прэзідэнтам горада Беластока, гарадскія ўлады адмовіліся прадставіць консульству жыллёвае памяшканне. У сувязі з тым пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы, Уладзімір Сянько, адмовіўся пераняць памяшканні на вул. Варынскага.

*— Такім чынам, консульства надалей застаецца на вул. Сітарскай?*

— Гэты будынак адразу быў прадстаўлены консульству. Усё-такі, ён знаходзіцца далёка ад цэнтра, а консульства павінна быць відомым.

*— Я ўпэўнены, што гэтую думку падтрымоўваюць усе чытачы „Нівы". Ці ёсць надзея, што схіляцца да яе і гарадскія ўлады? Гаворым жа пра першую дыпламатычную ўстанову ў Беластоку.*

— На жаль, стаўленне гэтых уладаў да супольнай справы робіцца штораз менш зразумелым. Надоечы я атрымаў мала дыпламатычнае пісьмо, падпісанае віцэ-прэзідэнтам горада. У пісьме паведамляюць мне, што будынак на вуліцы Сітарскай выстаўлены на продаж. У сувязі з тым я быццам бы павінен зрабіць будынак даступным для пакупнікоў, якія захочуць яго агледзець, а пасля яго продажы выбрацца з яго яшчэ да падпісання натарыяльнай дамовы.

*— Гэта сапраўдны кур'ёз. Якія Вы прынялі ў сувязі з тым меры?*

— Я звярнуўся да Ваяводскага каменданта паліцыі з просьбай забяспечыць ахову мне, маёй сям'і і займаемых кон-

☞ *Працяг на стар. 4*

# ШТО ЗА ВЁСКА — МЕЛЯШКІ!



*— Паглядзі, Валодзя, сорак год мінула як адзін дзень...*

Канец лютага. Крэпкія маразы з паловы месяца адпусцілі, але снег не збіраецца злазіць з выстылай зямлі. Рушыў вецер, падняў курыва. Святло фараў аўтобуса прабівае цемень, машына падскоквае на камяністай выслізганай шашы ў напрамку Баброўнік. Едзем у Меляшкі, што сем кіламетраў ад Гарадка.

Калісь тут была вялікая, яшчэ зусім нядаўна людная і вельмі заможная вёска. І цяпер яна нядрэнна выглядае — тратуары абапал шырокае вуліцы, акуратныя, дагледжаныя двары ў засені старых дрэў. І людзі працавітыя, гасцінныя, шчырыя. Беларусы.

Сёння мы ў гасцях у Ніны і Валодзі Пятэльскіх. У штодзённым клопаце яны зусім забыліся, што сёння, 20 лютага, якраз... роўна сорак год ад іх вяселля! У цёплай хаце, за скромна, але апетытна застаўленым сталом мы хутка адтайваем, разварушваемся, весялеем.

— Што ж цяпер за вёска! Трыццаць удоваў, тры ўдаўцы, — кажа Валодзя. — Вёска яшчэ вялікая, але старыя ўсе. Было ў нас тут 86 хатаў, гаспадароў дзе якіх 120, бо па чатырох на адным падворку жылі. І калонія, мусіць, з трыццаць мела. От, бачыце — бабы пазаставаліся, бо мужчыны ўміраюць упярод як бабы. Чаму? Мусіць, таму, што п'юць ды кураць. Якуб застаўся, Янак... Якубу будзе хіба дзевяноста чатыры...

— А што, не піў і не курыў? — цікаўлюся.

— Не, яшчэ курыць, — смяецца Ніна. — Але якія пахучыя, добрыя цыгарэты, што зяць яму з Варшавы прывозіць.

— Э, калісьнія людзі моцныя! — уздыхае гаспадар. — Старыя, адпорныя на ўсё. Нашы бабы моцныя, усё перапрыбаюць. Вось бабка Мурованская толькі што памерла. Дзевяноста шэсць. Разумная кабета. За саветаў была маёй настаўніцай... Усе на рэнтах. Можа, таму і дзеці да іх прыязджаюць — баба дасць сыну, унуку. Папрысылаюць дзяцей на канікулы, на свята — тут лягчэй пратрымаць. Не накормяцца іх старыя! Як так, то не ядуць, але разам, на свежым паветры — то не накормішся!

— Што там да яды, то нічога, — заўважае Ніна. — Ано шумяць вельмі. Збяруцца ўсе разам і на горку, на „могілкі". Напакуюць у фольгавыя мяшкі сена, пасядаюць адно за адным і гайда! Цэлая горка малых!

— То і добра, што вёска не пустуе... Наша сяло калісьці вось за тымі курганамі было, там і месца называецца „Селіско". Пасля заразы перанеслі вёску сюды. Усё гэта не за нашай памяці. То зараза, то вайна, то пажары... Як уся вёска падалася ў бежанства ў Расею, то застаўся адзін чалавек, крыху ненармальны, Аксенты, і дачакаўся вяртання іншых. Пераджыў. А ўся вёска зарасла — ні сцежкі, ні падворка, крапіва і лебяда пад вокны. Баяліся, што як прыйдзе немец, то ўсіх падушыць, бо газ пускаў. Запытайце Тамашыхі *(Люба Даракевіч-Лавіцкая, малодшая сястра „нашанiўца" Янука Д. — М. Л.)* пра гэтыя справы, яна ўсё ведае, мае добрую памяць... Але наша вёска так зусім тады не пуставала, бо тады немцы тут былі і іншыя бежанцы. Як прыехалі, то чатыры сем'і пасяліліся ў нашай хаце, той маленькай, бо іншыя хаты пагарэлі ці былі без вокан і дзвярэй. Не ўсе вярнуліся — хто застаўся ў Расеі, каго забілі, каго замучыў тыф. Вёска два разы зусім згарэла. Быў страшны пажар перад першаю вайною, даўно — мама яшчэ такая маленькая была, што не сягала да акна. Няма цяпер каму расказваць. Мой бацька быў майстар апавядаць. Прыйдуць маладыя да Лёнькі на вячоркі, то адразу у пакой да бацькі. А хатка маленечкая, што галавой да полапа дастанешся. От, каб тады можна было ўсё тое запісаць, накрунуць на магнітафон! Тата ўсё памятаў, што бачыў, дзе быў, і ўмеў гэта займальна расказаць. Біблію на памяць ведаў. У Вейках цяпер наша маленькая хатка стаіць. А яе мы купілі ў Падазеранах пасля пажару. У нас тут амаль усе хаты драўляныя, чатыры толькі мураванкі будзе... А тая хатка там на горцы каля крамы стаіць (будзеце праязджаць, то пабачыце), датачылі яе, пабольшылі вокны, але нічога больш не змянілі — клямка яшчэ нашая і зашчапка тая ж. У Меляшках стаяла 50 гадоў. А тут вось, бачыш, наш дом стаяў каля гэтае старое дуплястае ліпы (калісьці можна было зайсці ў яе нутро, ды зарасла), тут калодзеж быў, драўляны, цяпер засыпаны. Колькі тут на лавачцы папаспявалі, папагаварылі, гарэлкі папілі! Колькі тут вечароў прасядзелі! А на наша вяселле, памятаеш, Нінка, колькі ў гэтай хатцы людзей памясцілася?

— Гэта ў гэту хатку белага каня ўводзілі? — пытаецца сын Андрэй.

— Не, гэта ў Баравых на вяселлі, — кажа Нінчына сястра Зіна. — Як я прыехала і ўбачыла, у якую хацінку аддаю адзіную сястру, то аж мне захацелася плакаць. У нас пад Семяноўкай такіх хатак малых я не бачыла. У вайну ўсе пушчанскія вёскі немец паpаліў, то потым усе большыя ставілі.

— Я ўвайшла ў вэлюме, за мной Верка Колькава, і тая кажа: „Глянь, то ж у іхняй печы дзверкаў няма!" А Госпадзі! Мне валасы пад вэлюмам паставалі дыбам!

— А што ж зробіш, Нінка, калі палюбілі мы адзін аднаго! — смяецца Валодзя. — Цётка Верка нас хітра пазнаёміла, памятаеш? Бульбу тады мы капалі.

— Клалі мяшкі разам. Дакранулася я да Валодзевае рукі, чую — нейкая як свая, цёплая. Але нічога не кажам адно аднаму, устыдаемся...

— Потым выбраліся мы да Баравых — я, Уладак і мой брат Міхал. На пазычаных раварах. Заязджаем пад Семяноўку, бачым — знаёмы хлопец (яго маці з Меляшкоў была). Мы бутэльку на траву, пасядалі, распыталі, што, дзе, як. Заехалі да Баравых — а там танцы ў Нінчынай хаце... Бачым знаёмых — Федзік з Тарнопаля, Янелеў Ваня... У Лізінай Веркі вяселле было, а тут паненскі вечар.

— Як разгуляліся хлопцы! Валодзя падчапіў нейкую разводку, танчыў з ёю цэлую ноч. Такая Верка маленькая...

— Вы памятаеце такія дробязі, што амаль паўвеку таму былі? — здзіўляецца Андрэй.



— Але, усё! Як мы напрасткі перлі на раварах цераз тарпу, Рабінаўку, Калітнік... Быццам не ў сваты прыехалі, а так толькі пабавіцца з маладымі, сярод сваіх. Нінка не гаравала, што я танцаваў з іншаю, і я не плакаў, што хлопцаў поўная хата: Альхоўка, Бабігара, Семяноўка, Пасекі, Масева!.. Палягалі мы спаць на падлогу, а тут на нас гэтыя пушчанскія камары як вераб'і як не накінуцца! Дагэтуль памятаю — амаль нас не заелі гэтыя бестыі! Раніцай мы адзін аднаго пад бакі: глянь, тут не прападзем, сталы застаўлены. І так мы са сваім паўлітрам бавіліся два дні. Якраз Сёмуха была. А 20 лютага 1954 года было ўжо наша вяселле...

— Пачакай, пачакай! Мароз быў не такі як сёння — за 30 градусаў!

— Тыя нашы сваты як не сваты былі. А мяне давай былі сватаць у Ялоўку. Мелі там бабу з хатаю. П'ем, а на падворку бегае файная паненка. Бачу — някепская. Але адзін сусед кажа паціху: цыт, яна дзіцё выкінула. О не, мне ўсё адышло! Ну то мае сваты кажуць: „Паехалі ў Боўтрыкі, купім там карову, разгледземся, можа паненкі якія знойдзем". Ну, заехалі мы туды. Рыхтык дзеўкі падлогу мылі. Можа і файныя, але не ў пару мы трапілі: ногі ў іх запэцканыя, паўхляпваныя. Калі б я ў вочы ўзіраўся, то, пэўна, не заўважыў бы. Бачу, маці ўжо за патэльню бярэцца, бацька гарэлку бах на стол... Ай-яй-яй! А калісь так было, што калі ў сватах вып'еш, а дзеўкі брац не захацеў, то потым трэба ўтрату аддаваць.

Кажу Ёзю ў вуха: „Давай лепш паедзем, я тут па суседску маю на воку дзяўчыну, не ведаю толькі, як туды згэтуль даехаць. І ад Сёмухі мы не бачыліся..." А дзе яна? У Баравых. А тут Нарва замерзла, якраз Крашчэнне, мароз моцны, то і хутка мы заехалі. Нінчын бацька нас па каню пазнаў, бо сват меў раней з Іванам інтарэсы. Баяліся распрагаць — можа, не прыме, ці што... Галодныя (сабака нам у Боўтрыках каўбасу ўкраў), прамерзлыя да косці... А тут якраз паршучка закалолі, свежанькая смаляціна. Бацька распрог каня, завёў у стайню, прыйшлі суседзі. Ой, як мы там забалявалі! Ну, але пакуль што, то мне ў дарогу Караль з Наpаўкі ўваходзіў. Дзядзька Юстын быў за тым, каб Нінка за Караля пайшла. Што прыедуць сваты, то Нінка кожнаму дае ручнік вышываны...

— З хаты не выйшлі б, то і давала.

— А мы ручніка не дамагаліся. Другі раз як прыехалі, то Караль толькі што выехаў. Праўду казаў сват — штосьці будзе, бо заяц нам дарогу перабег. Нінка выскачыла, прыняла нас. Дагаварыліся. Праз пару дзён паехалі на запіс у Нараўку. За Грамніцы было вяселле. Снегу гурбы, аж сані перакідаліся.

— Мароз страшны, людзі пілі, каб сагрэцца, — усміхаецца паружавелая ад успамінаў Ніна. — Стаім у царкве, і чуем за плячыма: гуп! гуп! падаюць людзі на падлогу!

— Мае вусны так акалелі, і калі падаваў мне бацюшка віно, пацякло па барадзе. Чую, народ шэпчацца: „Будзе п'яніца, будзе п'яніца!".

— А не п'яніца, а стараннлівы гаспадар і бацька, — усміхаюся да цёткі Ніны.

— Калісь, ведаеш, п'яніц толькі і любілі! — кажа Валодзя і смяецца, убачыўшы маю міну. — А ведаеш чаму? На забаве, калі хлопец не п'е, то дзеўка і гаварыць з ім не хоча! Бо не п'е таму, што... не мае за што! Паглядзі: калісь Сэты не хацелі размаўляць з Меляшкамі. А Меляшкі сталі багатымі. Усе ў Беласток павыязджалі, зямлі многа — адно бяры! Колькі хочаш!

— У нас самых 18 гектараў. Балота амаль 11. Пара нам ужо здаць зямлю, але цяпер не бяруць. У Беластоку кажуць: „О, пані то ест дзедзічка!". А было ў нас толькі 4 гектары. Стараліся, дакуплялі, а цяпер ніхто з дзяцей яе не хоча, хоць прыязджаюць, не шкадуюць сіл, дапамагаюць. Усё мы пабудавалі, накупілі машын. Дзяцей пахрысцілі, хату кожнаму далі... — пералічвае Ніна.

— Бачыш, дарам мне ў царкве віно па барадзе цякло!

— Дзяцей у нас чацвёра, унукаў сем. Дзеці пакончылі школы, свайго не цураюцца. Унучка Марта спявае ў царкоўным хоры на Выгодзе...

— І вёску мы ўтрымалі. Наша. Ніхто чужы тут прыжыцца не мог, хоць з намі някепска людзям жывецца. Бабы спяваюць, выступаюць, гуляюць у тэатр. А гляньце, як дзяцей — унукаў і праўнукаў — панаязджае пад нашыя старыя ліпы — аж радасна пaглядзець. Ано яны шумяць за моцна, як на старыя вушы.

**МІРА ЛУКША**
**Фота аўтара**

# ЦВЁРДЫЯ АХОЎНІКІ ПАРАДКУ

*Працяг са стар. 1*

— Будзе з восемдзесят.

Продаж білетаў цягнулася неяк да дзесятай вечара. Тады на другі паверх Асяродка культуры ўвайшло чатырох функцыянераў (адзін у цывільным, другі ў выхадным мундзіры, а двух астатніх у аперацыйнай форме). Прывялі з сабою сабаку.

— **Czy gabinet dla załogi przygotowany?** — запытаў камендант, праходзячы ў калідор. Зайшлі ў бюро Асяродка, бо якраз было адчыненае. Пайшла за імі Ала С. Анна А. была на кухні ды заварвала каву-гарбату — załoga запатрабавала.

— Не ведаю, што за чым адбылося, — сказала Анна С., — але, калі я выглянула з кухні на калідор, убачыла, як функцыянер Ежы Б. б'е дубінкай Марыюша Х.

— Не магу ўсяго паскладаць у памяці, — сказала Ала С., — тварылася нешта несумяшчальнае з тым, чаго я дагэтуль дасведчыла. Былі мы ў шоку. Я выйшла на калідор, каб паглядзець, што дзеецца. Камендант і функцыянер Ежы Б. білі дубінкамі Марыюша Х. Пра што ім пайшло, не ведаю. Білі на вачах моладзі. Побач стаяла мая дачка,

## і я бачыла як яна збялела ад страху.

Калі ўсе ўвайшлі ў бюро, функцыянеры запатрабавалі ад мяне і Лілі пасведчыць на пісьме, што мы іх выклікалі на інтэрвенцыю. Мы адмовіліся. Тады паліцыя выйшла з Асяродка.

— Выклікалі ўжо нас на камісарыят, — дадала Ала С. — Не ведаю, што пра ўсё гэта думаць. Там, на камісарыяце, лёгка разгубіцца — дзесяць падыходаў да аднаго і таго ж пытання. А ўсё ішло пра тое, каб пацвердзіць, што з Асяродка былі два тэлефоны ў справе інтэрвенцыі. Адзін тэлефон — гэта, калі я паведаміла пра дыскатэку...

— Другі раз, — дадала Анна А., — няма ў гэтым сакрэту, званіла я, да жонкі каменданта, у цалкам прыватнай справе.

## Нараўскі войт

пра інцыдэнт у Асяродку культуры даведаўся 9 лютага — з чутак, якія пайшлі ў людзі. Гэтага ж дня папрасіў ён працаўніц Асяродка скласці пісьмовую справаздачу з дыскатэкі, якая адбывалася 5 лютага.

## Да самага горшага не дайшло,

лічыць войт Ян Тапалянскі. У зале на другім паверсе гуляла каля 80 чалавек. Хай частка з іх была б нападпітку — страшна думаць, маглі б адпомсціць функцыянерам у тую ж хвіліну, калі праходзіла лупцоўка хлопца. Паліцыянтам пагражала сур'ёзная небяспека, у параўнанні з якой пабітыя шыбы гайнаўскай камендатуры —

## гульня ў тосі-лапкі.

У асяродку няма эвакуацыйнага выхаду — манеўр там моцна абмежаваны. І сабака ні на што ім не здаўся б.

Пасрэдная прычына гэтага прыкрага і брыдкага інцыдэнту, лічыць войт, між іншым, і ў тым, што пры назначэнні каменданта нараўскага камісарыята Ваяводская камендатура не лічылася з адмоўным стаўленнем Рады гміны да асобы Кшыштафа П. — Я не раз, — сказаў войт, — намагаўся ператлумачыць нараўскім функцыянерам, што яны дзеля таго, каб увесці тут атмасферу бяспекі, але для гэтага неабходнае супрацоўніцтва паліцыі з самаўрадам.

— **Jesteśmy po to, żeby karać**, — адказваюць мне. І што ты зробіш!

## Функцыянер нараўскага камісарыята

скіраваў аўтара да прэсавага прадстаўніка Ваяводскай камендатуры ў Беластоку. На пытанне пра інцыдэнт у Нараўскім асяродку культуры 5 лютага, падінспектар Кшыштаф Каспшак сказаў, што фактычна гэтага дня мела месца інтэрвенцыя ў сувязі з парушэннем парадку. Функцыянеры прымянілі фізічную сілу і дубінку. У сувязі са скаргай, высвятленнем, ці фунцыянеры дзейнічалі ў рамках сваіх кампетэнцый, займаецца пракурор.

## Гайнаўскі пракурор

Базылі Талентаюк паўстрымаўся ад выказванняў.

— Справа надта свежая, — сказаў ён, — каб мог я тут выказаць свае меркаванні. Паводле карнага кодэксу, расследаванне павінна адбыцца на працягу трох месяцаў, не даўжэй. Лічу, аднак, што з увагі на характар справы расследаванне гэтае адбудзецца значна хутчэй.

## Horror

— На дыскатэцы былі мы гадзіны дзве, — сказала Аліна А., жонка пабітага Збігнева. — Збіраліся з мужам мы ўжо выходзіць дахаты, але я нешта замарудзіла пры надзяванні курткі і ён выперадзіў мяне. Я яго даганяла... Ступіў ён на ўсходы і там да яго даскочыў камендант. Абедзвюма рукамі закінуў яму на шыю гумовую дубінку ды заціснуў яе. Стаў мужам кідаць на бакі, біць аб сцяну. Пасля некалькіх такіх удараў вызваліў яго ды піхнуў уніз. Муж скаціўся па ўсходах на паўпаверх. Там схапіла яго за куртку двух іншых функцыянераў, павалаклі ўніз, таўклі нагамі. Я бегла за імі і верашчала:

— **Za co go bijecie? Przecież on się nawet do was nie odezwał!**

На партэры, калі валаклі мужа ў сенцы і псікалі газам, камендант таўкануў мяне нагою:

**Spier..., bo jak ci mało, to mogę dołożyć.** Я звалілася і вывіхнула правую руку. Мужа выцягнулі на панадворак, адзін функцыянер запёр дзверы, каб ніхто з сярэдзіны не вылазіў. Рэшта біла, дубінкамі і чаравікамі. Не магу сабе ўсвядоміць, як доўга гэта трывала. Не знаходжу вытлумачэння, але, здаецца, яны перасталі біць, калі адчулі задавальненне, што ўжо з яго хопіць.

Напор на дзверы паслабеў і я адчула, што магу выйсці на панадворак. Спачатку думала, што муж мёртвы, бо ляжаў так дзіўна павыкручваны, аж ненатуральна. Папрасіла сяброўку дапамагчы. Паднялі і неяк павялі дахаты. Муж нічога не бачыў.

Не мог ён улажыцца да спяння, а ў нядзелю мы заўважылі, што ссінелі яму плечы. Варушыліся таксама зубы, не мог прымаць нармальнай ежы. Лекары выявілі таксама расколіну на чэрапе.

—**Стараюся не вылазіць з пасцелі,** — сказаў Збігнеў А., а ў роце бліснулі раны ад выбітых зубоў. — Лекары не рэкамендуюць. Дастаткова ўжо, што неяк трэба давалачыся ў туалет за патрэбай. Пацягну там разы два папяросу і мушу добра пастарацца, каб вярнуцца ў сваю залу, не страціўшы прытомнасці.

Шмат асоб бачыла, як мяне таўклі. Усё моладзь. Паміж сабою расказваюць, як гэта было, а калі запытаю, ці будуць у маёй справе сведчыць — усяк бывае. Усе яны непаўналетнія. Ёсць, аднак, адна асоба дарослая, з-па-за дыскатэкі, якая таксама бачыла. Ці варта вам выявіць, хто гэта такі — можа лепш дарма не запалохваць чалавека?..

**А. МАКСІМЮК**

# НЕ ЗНАХОДЖУ АДПАВЕДНЫХ СЛОЎ

*Працяг са стар. 1*

сульствам памяшканняў падчас знаходжання ў будынку чужых асоб. Камендант гэта выканаў. Звыш таго, будынак ахоўвала і Гарадская страж.

*— Усё-такі, жыццё пад паліцыйнай аховай гэта не ёсць асноўная задача консульства. Ці гарадскія ўлады прапанавалі Вам іншыя памяшканні на выпадак продажу займаемага Вамі будынка на вул. Сітарскай?*

— У дасланым мне пісьме няма ніякіх прапановаў адносна новых памяшканняў. Усё-такі спадзяюся, што выхад з гэтага тупіка знойдзецца. Вельмі энергічна ўключыўся ў пошукі будынка для консульства пасол Сейма Сяргей Плева. Паводле яго, консульства магло б памясціцца ў будынку на вул. Акадэміцкай 26. Будынак гэты належыць Міністэрству нацыянальнай абароны і знаходзіцца ў ім гарнізонная гасцініца. Будынак на вул. Акадэміцкай 26 адпавядаў бы консульству і сведчыў бы пра добрыя ўзаемаадносіны між дзвюма нашымі дзяржавамі.

*— Такім чынам пошукі будынка для консульства Беларусі ў Беластоку пераносяцца ў Варшаву. Няўжо ж гарадскія ўлады вычарпалі свае магчымасці ў гэтай справе?*

— Так прынамсі заявіў прэзідэнт горада Беластока. Паводле яго, горад што меў, дык прапанаваў.

*— Выглядае на тое, што ўправа горада Беластока вядзе сваю дыпламатыю, незалежную ад дзяржаўнай. Гэта вельмі абурае тутэйшых людзей, як беларусаў, так і палякаў. Сведчаць аб тым тэлефоны слухачоў пасля перадачы па Беластоцкаму радыё, прысвечанай гэтай справе. Ці можаце вызначыць Вашую пазіцыю адносна беластоцкай „дыпламатыі"?*

— Не знаходжу адпаведных слоў у мове дыпламатыі дзеля ацэнкі паводзінаў беластоцкіх уладаў. Таму скажу проста: гэта бескультур'е. Усё-такі спадзяюся, што гэтыя ўлады зменяць свой падыход да справы і абыдзецца без прымання дадатковых мераў.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў
**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

## ПАРТЫІ, РУХІ, АСАЦЫЯЦЫІ

Пад канец лютага адбылася першая канферэнцыя Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. У звароце да народаў краіны ЛДПБ выступае за эканамічны і палітычны саюз з Расеяй, за выхад з крызісу шляхам прыпынення канверсіі ваеннай прамысловасці, за выкараненне арганізаванай злачыннасці і спыненне дзейнасці спекулянтаў. Партыя налічвае каля трох тысяч членаў і расейскую Ліберальна-дэмакратычную партыю Уладзіміра Жырыноўскага лічыць роднаснай сабе. Статут ЛДП Беларусі зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі пад н-р 645.

А пад н-р 646 зарэгістраваны статут Беларускай партыі працы, якой устаноўчы з'езд адбыўся 25 лістапада м.г. па ініцыятыве незалежных прафсаюзаў прамысловасці. На бліжэйшым пасяджэнні Савет БПП прыме заяву пра склаўшуюся на Беларусі сітуацыю.

Затое выканкам Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады выбраў ўжо камітэт па стварэнню жаночага сацыял-дэмакратычнага руху.

У Беларусі стварылася таксама асацыяцыя карэйцаў, якая ставіць за мэты адраджэнне культурных і моўных традыцый гэтай меншасці. Асацыяцыя будзе развіваць эканамічныя сувязі з абедзвюма карэйскімі дзяржавамі.

(л)



# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## V. Глебы

Беларусь знаходзіцца ў межах дзярнова-падзолістай глебавай зоны. Дзярнова-падзолістыя глебы, уключаючы забалочаныя глебы гэтага занальнага тыпу займаюць амаль 80% тэрыторыі Рэспублікі. Такія глебы ўтварыліся дзякуючы вільготнаму, умеранаму клімату, лясной расліннасці і травяністаму покрыву.

Прыродная ўрадлівасць дзярнова-падзолістых і тарфяна-балотных глеб невысокая. Яны бедныя перагноем, змяшчаюць раствораныя кіслоты. Кіслотнасць глеб адмоўна ўплывае на развіццё раслін. Для зніжэння кіслай рэакцыі праводзіцца вапнаванне.

На ўрадлівасць глебы робіць уплыў склад пароды, на якой глеба ўтварылася.

Пяскі лёгка прапускаюць ваду, таму мала ў іх пажыўных рэчываў і вільгацці. Пяскі сустракаюцца ў Беларусі паўсюдна, але больш за ўсё іх у паўднёвай (палескай) частцы краіны.

Гліны дрэнна прапускаюць ваду. Таму гліністыя глебы даўжэй утрымліваюць вільгаць і лепш захоўваюць пажыўныя рэчывы. Але ў вільготныя гады на такой глебе нярэдка застойваецца вада, якая прыводзіць да малога ўраджаю. Гліністыя глебы сустракаюцца ў Беларусі радзей чым пяскі. Найбольш глін на паўночным захадзе і поўначы.

Лёсападобныя пароды добра прапускаюць ваду, яны часта багатыя вапнай, якая садзейнічае ўтрыманню ў глебе лёгкастваральных, патрэбных для раслін рэчываў. Таму на такіх пародах утвараюцца больш урадлівыя супяшчаныя і суглінавыя дзярнова-падзолістыя глебы. Але лёсавідныя пароды ў час моцных ліўняў лёгка размываюцца, утвараючы яры. Больш за ўсё лёсападобных парод на поўдзень ад Менска, на поўначы і ўсходзе Магілёўскай вобласці.

Найбольш урадлівыя ва ўмовах Беларусі дзярнова-карбанатныя глебы. Яны фарміруюцца на карбанатных пародах — вапняках і даламітах. Кальцый, які змяшчаецца ў такіх пародах, стрымлівае працэс ападзольвання, паляпшае структуру глебы. Аднак дзярнова-карбанатныя глебы сустракаюцца асобнымі параўнальна невялікімі ўчасткамі, часцей на ўсходзе краіны.

Уздоўж рачных далін сустракаюцца пойменна-лугавыя глебы. Яны ўтварыліся з наносаў рэк. Пойменна-лугавыя глебы часцей заняты лугамі, але, разараўшы іх, можна атрымаць высокія ўраджаі.

Глебавыя адрозненні выражаны ў Беларусі слаба, аднак тут вызначаюць чатыры глебавыя акругі:

1. Віцебска-Полацкая, дзе шырока прадстаўлены суглінкавыя завалуненыя глебы;
2. Аршанска-Магілёўская з шырокім развіццём лёсавідных парод;
3. Менска-Гродзенская са складаным марэнным рэльефам, валунамі і стракатым чаргаваннем пясчаных, гліністых і лёсападобных парод;
4. Палеская з шырокім развіццём тарфяна-балотных глебаў і пяскоў.

**Ю. БАЕНА**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛІЧЫЛКІ

* * *

Агурэчак, агурэчак,
Ты не йдзі на той канечак:
Там бабкі жывуць,
Табе хвосцік адарвуць.

* * *

Стакан, лімон —
Выйдзі вон.
Стакан заваркі —
Выходзь без сваркі.

* * *

Рагадан, рагадан,
На чатыры загадан.
Кацярынін нос
На пятнаццаць вёрст.
Шалдэ-балдэ,
Бушмак барада,
Выйдзі вон з гарада.
Турмас!

* * *

Саломіна-яломіна,
Берасцень-пасвісцень.
Радзівон, выйдзі вон!

* * *

Ходзіць кошка
Ля вакошка,
Маніць дзетак
Каля клетак:
— Ах вы, дзеткі,
Многа вас,
Сіня шапка,
Прэч ад нас!

* * *

Ішоў кот праз сто варот,
Дайшоў да канца,
Знайшоў кацяня.
Мяў!

* * *

Круціцеся, жорны,
З’едзен хлеб на[illegible]оны:
Крысін і Марыс[illegible]
Грунін і Анісін,
З’едзен і Пятроў хлябок.
Намялі для іх, дзядок[illegible]

* * *

Курыца-квактуха
Вадзіла дзяцей
Каля кляцей.
Квох — сесці
На красным месці,
Яечка знесці.

## ЛАГАГРЫФ



1. топкае балота, 2. чалавек з дзіўнымі звычкамі, 3. куе жалеза, 4. невялікая капа сена або саломы, 5. сталіца Вялікага княства Літоўскага, 6. сельскагаспадарчая прылада з зубамі.

Вылучаныя літары складуць назву вялікай ракі, якая цячэ на поўначы Беларусі праз такія гарады як, м. інш., Віцебск і Полацк.

Узнагароду высылаем **Марку Марозу** з Нараўкі.



*Вершы піша Аня Кананюк з першага класа школы ў Крыўцы (сказала пра гэта на сустрэчы з „Зоркай”), але яшчэ не ведае беларускіх літар. Аня, чакаем тваіх лістоў!* **Фота М. Лукшы**

## МАЛЫ ЯНКА

Настаўніца пытаецца ў малога Янкі:

— Які з падарункаў, атрыманых ад бацькоў, лічыш самым каштоўным?

— Трубку! Тата штодзённа дае мне дзесяць тысяч злотых, каб я перастаў на ёй іграць!

* * *

— Давай, пагуляем у заапарк, — кажа малы Янка сябру.

— Добра, але як выглядае такая гульня?

— Я буду малпкай, а ты мяне будзеш карміць бананамі!

**А. Гаўрылюк**

<u>Беларускія святы</u>

## ДЗЕНЬ АЎДАКЕІ

**14 сакавіка** — дзень Аўдакеі (Яўдокіі). Імя гэтай святой нярэдка ў народзе гучала таксама і ў мужчынскай форме: „Аўдакей”. Радок з валачобнай песні быццам пацвярджае беларускую назву першага веснавога месяца: „Святы Аўдакей с о к і збіраець”. Да гэтага тэрміну, як правіла, сыходзіў снег, нярэдкім быў і галалёд, таму і зазначана ў прыказцы: „На Яўдокі голы бокі”. На Магілёўшчыне прыкмячалі, што калі ў дзень Аўдакеі „сонца добра свеціць і вол нап’ецца з-пад страхі, то вясна будзе добрая”. У іншых мясцовасцях падтрымліваліся падобныя назіранні: „Калі на Аўдакея курыца з-пад страхі нап’ецца, то на Благавешчанне — вол”. Розным сваім надвор’ем дыктавала Аўдакея і неадналькавыя прагнозы на будучае: цёплы дзень варажыў цёплую вясну і лета і асаблівa ўдалы сенакос; дождж — абяцаў ураджай на жыта; туман — на струковыя расліны; мароз грaзіў прымарозіць пазней грэчку ў час яе цвіцення; рэдкія для гэтае пары завірухі, мяцеліцы прадказвалі вялікі холад на ўвесь год. Дзень Аўдакеі надта не выдзяляўся ў афіцыйным календары, але сярод сялян меў рытуальныя правілы. Відаць, гэтая святая ў іх уяўленні нейкім чынам спрыяла кабетам, таму і вымагала ў гэты дзень ад іх пэўных абмежаванняў у дзеяннях: ім нельга было прасці, а дазвалялася толькі гатовыя ніткі сукаць, рэзаць жа можна было толькі тымі нажніцамі, якімі стрыглі авец. Мужчынам на Аўдакею дазвалялася рабіць усё. Вельмі рэдка ў якіх мясцінах не працавалі зусім, каб не прагнявіць пакутніцу, якая нібыта „дзержа ў руцэ лета”. Часам у асобных вёсках праводзілася гуканне вясны.

*Благаславі, Божа,*
*Вясну красну пеці*
*На ціхае лета,*
*На буйнае жыта.*
*Каб наша жыта*
*У трубы павілося,*
*У трубы павілося,*
*Набок схілілося.*
*На полі снапамі,*
*А ў гумне тарпамі,*
*На таку ўмалотна,*
*У арудзе прысыпна,*
*А ў млыне прымолна,*
*А ў дзяжы падходна,*
*А ў печы пячыста,*
*А на стале краіста.*

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І ПЯСОЧНЫ ТОРЦІК

Аднойчы спала мышка ў сваёй норцы. Пабудзілі яе крыкі дзяцей, што даляталі праз расчыненае акно. Гэта Веранічка са сваімі сяброўкамі гулялі ў пясочніцы.

— Ну які ты непрыгожы торцік зрабіла! — крычала Веранічка.

— Ну і што! Зараз я яго выкіну і новы спяку! — адказвала сяброўка.

„Нічога сабе! — падумала мышка. — Торцікамі яны там раскідваюцца! Не, каб бедная Пік-Пік дацьхоць крышачку. Трэба туды бегчы ды наводзіць парадак!”

І Пік-Пік хуценька пабегла на двор, есці торцікі.

Веранічка і яшчэ дзве дзяўчынкі сядзелі ў пясочніцы. Яны набіралі шуфлікамі вільготны пясок, накладалі ў прыгожыя формачкі і перакульвалі іх на драўляным борце пясочніцы. Пасля формачкі здымаліся, і заставаліся прыгожыя фігуркі з пяску, на самай справе вельмі падобныя на торцікі, кексы і піроэкныя. Дзяўчынкі яшчэ ўпрыгожвалі іх кветкамі, ягадкамі, каменьчыкамі, так што атрымлівалася нават апетытна з выгляду. Таму мышка доўга не думала, а адразу куснула самы прыгожы торт... Цьфу! Пясок... Пік-Пік пакратала другі „торцік”, і той рассыпаўся...

— Ты што робіш! — закрычалі дзяўчынкі. — Вераніка, гэта твая мышка? Дык скажы ёй, каб не рушыла нашу работу!

Веранічка ўзяла Пік-Пік на рукі і строга сказала:

— Пік-Пік! Ты перашкаджаеш нам гуляць! Ідзі дадому, а то Мурзіка паклічу!

Мышка вельмі пакрыўдзілася:

— А што ж вы сумленных мышак падманваеце? Чаму гаворыце „торцікі”, „торцікі”, калі ў вас адзін пясок? Самі б яго і елі!

— Дык мы, здаецца, табе і не прапаноўвалі! — абурылася Веранічка.

— Хіба можна хапаць усё без дазволу? Калі-небудзь такое з’ясі, што памрэш!

— Але ж я ад вашага пяску не памру! — занепакоілася мышка.

— А можа!.. — засмяяліся Веранiччыны сяброўкі. Тады Пік-Пік выслізнула ў Веранічкі з рук і паімчала дадому. „Атруцілі! Забілі!” — ліхаманкава праносіліся думкі ў мышчынай галоўцы. На кухні Пік-Пік адразу палезла ў кутнюю шафку, дзе тата хаваў свае самыя дарагія лекі — невялікую бутэлечку, на дне якой у мутнай вадкасці плавалі шэрыя карэньчыкі з рэзкім пахам. Тата любіў пацягваць з гэтай бутэлечкі ў самых розных выпадках: „Нешта горла баліць...”, „Нешта жывот схапіла...”, „Нешта стаміўся...”. Глыне, закаркуе — і зноў вясёлы. Мышка нават успомніла, як тата называў гэтыя карэньчыкі: „дзівасіл”. Не ведала мышка толькі, што тата ўвесь час залівае іх чысцюткім спіртам. І вось адкаркавала мышка запаветную бутэлечку, але, на шчасце, вырашыла адразу панюхаць зеліва... У крошачны мышчын носік шыбануў такі магутны пах, што Пік-Пік заняло дых, яна паспела толькі ікнуць — і звалілася ў непрытомнасці. Тым часам з прагулкі вярнулася Веранічка. Ўбачыла на кухні, каля адкаркаванай бутэлькі, бедную Пік-Пік. Веранічка ведала, што рабіць у такіх выпадках. Яна пабегла да тэлефона і выклікала „хуткую дапамогу”. Але цёця дыспетчар „хуткай дапамогі”, пачуўшы, што пацыента завуць „мышка Пік-Пік”, параіла Веранічцы званіць па іншаму тэлефону, а менавіта ў міліцыю, дзе заўсёды радыя выявіць хуліганаў. Веранічка паклала трубку і вырашыла ратаваць небараку сваімі сіламі. Яна проста ўзяла мышку і сунула яе пад струмень халоднай вады, як гэта рабілі ў тэлевізары з непрытомнымі дзядзямі. Пік-Пік хутка адплюшчыла вочы, пракашлялася і змагла прамовіць няшчасным галаскам: — Торціка!

Давялося маме сёння пячы сапраўдны торцік, каб супакоіць сваё сямейства пасля такога няшчаснага выпадку.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 17

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Націск — пульс мовы

У гульнях з амографамі мы мелі справу з выдзяленнем асобных складоў у слове — з націскам.

Націск трэба ўмець слухаць, і тады вы заўважыце, што рытмічнае чаргаванне націскаў нагадвае рытмічныя ўдары пульсу. Асабліва гэта бачна ў вершаванай мове, якая, акрамя слоўнага, мае яшчэ і свой, вершаваны націск. Своеасаблівы рытм уласцівы і празаічнай мове.

Націск трэба ўмець ставіць — у вуснай мове часам выяўляюцца памылкі, калі, напрыклад, замест *ба́гна* гавораць *багна́*, замест *ае́р* — а́ер, замест *адзіна́ццаць* — *адзі́наццаць*.

Вось гульня-праверка: на картках напісаны словы, у вымаўленні якіх узнікаюць памылкі; карткі раскладаюцца на стале надпісам уніз; вучні па чарзе падыходзяць і выцягваюць картку. Трэба ўголас прачытаць слова, растлумачыць яго значэнне, падабраць кантэкст (сказ або словазлучэнне), перакласці слова на польскую мову. Хто зробіць гэта хутка і правільна, атрымае пяць балаў. Нязначная памылка ў другім або трэцім пункце задання — чатыры балы; у перакладзе — тры; у вымаўленні — два. Гэта значыць, што трэба больш уважліва прыслухоўвацца да мовы, часцей заглядаць у слоўнікі.

Прыкладны спіс слоў для картак: *абапал, гектар, дакумент, дзеяч, дзеячка, дыскант, дыспансер, касцяны, цагляны, індустрыя, кулінарыя, на краі, інструмент, іржавец, квартал, мармур, таварыства, прэміраванне, рубель, сястрына, тавары́шы, упарадкаваць, худзенькі, ушыркі, цыган, цыгана, цэнтнер, шпацыр, эксперт, ярына, кідаеш, нехаця* і інш.

Ёсць у беларускай мове правіла, паводле якога правапіс некаторых галосных змяняецца ў залежнасці ад націску; пад націскам — адно, не пад націскам — зусім другое. Успомніце гэтыя галосныя, напішыце на пяць прыкладаў на кожны выпадак. Хто хутчэй?

А бывае, што нам трэба ўспомніць пра навуку гаспадыні Матэматыкі: каб ведаць, як правільна напісаць словы, трэба ўмець лічыць. Калі гэта бывае, успомнілі? Дык правядзіце бліц-турнір на выбыццё: вядучы дае слова і паказвае, хто павінен адразу ж даць у адказ „матэматычна-граматычны" варыянт; не адказаў адразу — выбыў, а вядучы паказвае на другога. Калі той адказаў, прадаўжае ўдзельнічаць у гульні, а вядучы спадзяецца „зладзіць" яго пазней. Пераможцы тыя, хто застаўся не „злоўленым" да таго, як у вядучага скончыўся запас слоў-„лавушак".

Ёсць яшчэ націск лагічны, яго інакш называюць сэнсавым, бо як ад змены слоўнага націску ў амографах змяняецца сэнс слова, так ад змены лагічнага — сэнс усяго слова, бо сэнсавы націск — гэта выдзяленне цэлага слова (часам нават некалькіх адразу) у сказе. Як правільна прачытаць сказ: ***Я быў** у кнігарні* — залежыць ад моўнай сітуацыі, таму лагічны націск — сітуацыйны. Дамовімся, што гэты сказ — адказ на запытанне. Калі гэта пытанне настаўніка, які хоча даведацца, ці набылі вучні рэкамендаваную кнігу, вы адкажаце: „**Я быў у кнігарні**" — з націскам на слове я. Калі гэта пытанне таварыша, які ведаў, куды вы збіраліся пайсці, вы адкажаце: „*Я* **быў** у кнігарні". Калі гэта пытанне задае чалавек, які не ведаў, дзе вы былі, адказ будзе такі: „*Я быў* **у кнігарні**". Вось так мы голасам выдзяляем патрэбныя нам у дадзенай сітуацыі словы.

Падрыхтуйце вуснае выступленне аб лагічных варыянтах складзенага вамі або ўзятага з падручніка невялікага простага сказа (5—7 слоў).

*(працяг у наступным нумары)*

# Р Э П К А

Рос рыс на востраве Абракадабра. А рабінзон Рома марыў вырасціць рэпку. Рыдлёўкай зрабіў градку пад рабінай, утыркнуў літару **Р**, прыгаварыў:

— Расці, Р!.. Радуй Рому!.. Раса — расіца, аброшвай Р... Ветрык-вятрыска, абветрывай Р... Промні-праменьчыкі, апраменьвайце Р...

І вырасла на градцы з **Р** рэпка. Рэпнік шырокі, рэпка рэкордная — аж парэпалася.

Трэба вырваць рэпку. Рабінзон Рома рваў-рваў — не вырваў.

Рысссю раз'юшаная рысь прыскакала. Рома за рэпку, рысь за Рому — не вырвалі.

Раптам рабы рабчык прыляцеў. Рома за рэпку, рысь за Рому, рабчык за рысь — не вырвалі.

Прыпоўз берагам разбойнік — рак. Рома за рэпку, рысь за Рому, рабчык за рысь, рак за рабчыка — не вырвалі.

Раздумваюць, разважаюць роспачна:

— Рэпку як вырваць?

Вынырнуў з раллі крот. Рабінзон Рома просіць:

— Родны крот-працаўнік, выручай!.. Рэпку не вырвем...

— Зар-раз падгр-рызу кор-рань, — прахрыпеў крот і нырнуў у нару.

Рома за рэпку, рысь за Рому, рабчык за рысь, рак за рабчыка, а крот за корань — р-раз і вырвалі.

— Ур-р-ра!.. Рэпка наверсе!..

Разам вячэралі. Рабінзон Рома адрэзаў рэпкі рысі, рабчыку, раку, крату. Радаваліся: дружным гуртам добра рэпку рваць, прыемна разам вячэраць.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## *Вершы Віктара Шведа*

**ЛЕПШЫ МЯЧ АД ЗАДАЧ?**

У тэлебачанні ўрачыстасць.
Мама чуе акурат,
Што спартсмены-футбалісты
Зарабляюць грошай шмат.

Глядзіць мама на Рыгора,
Што пацее ля задач:
— Выйдзі лепш на панадворак,
Крыху пагуляй у мяч!

**НАЙГОРШЫ НАСТАЎНІК**

Запытала мама Васю:
Ён якраз прыйшоў са школы:
— Хто найгоршы ў вашым класе?
Хіба ты, гультай, крамола!

— Я ў цябе найгоршы дома,
Гэта сталася забаўна.
А у класе па-другому,
Там найгоршы... наш настаўнік!

**ЯКАЯ ЧАСТКА МОВЫ?**

Настаўніца пытае
На ўроку Мікалая:
— Скажы мне: „малпа" слова
Якая частка мовы?

Гарэзлівы Валодзя
З падказкаю прыходзіць:
— Гэта час прошлы будзе
Ад назоўніка „людзі".

**ЁН ПАЧАЎ ПЕРШЫ**

— Пазбыцца трэба дурнаты, —
Бацька сынка малога лае. —
Чаму звяртаешся на „ты"
Да пажылога Мікалая?

На гэта адказаў сынок:
— Я, татка, паступіць так мусіў,
Ён мне на гэта даў намёк:
Першы „ты" ка мне звярнуўся!

**ПРАДУХІЛЕННЕ ЗДАРЭННЯ**

— Скажы мне, мілы Янка,
Куды імчыш маланкай?
— Хачу я, дружа Жэня,
Прадухіліць здарэнне,

Пазбегнуць страшнай дракі,
Пазбыцца забіякі...
— А хто тут хоча бою?
— Той, хто бяжыць за мною!..

**РАСЦЕ МІГАМ МАЛАКО**

Мама выбегла на двор.
Ля пліты малы Рыгор.
Вось прыкмеціў раптам ён
Белы на гаршку балон.

— Мама, паспяшайся ты,
Да гарачае пліты!
Малако, — крычыць сынок, —
Большае ўжо за гаршчок!

<u>Старажытныя рамёствы Беларусі</u>

# СЯРЭБРАНЫЯ ЦЮЛЬПАНЫ

Калі заходзіць размова пра чаканку, многія, пэўна, згадваюць Грузію, дзе гэтае мастацтва сапраўды набыло сусветную вядомасць. Але мала хто ведае, што ў свой час не меншую славу мелі і беларускія майстры чаканкі, якою ўпрыгожвалі ювелірныя вырабы, посуд, абклады кніг і абразоў.

На тэрыторыі Беларусі чаканка вядома з сярэднявечча (IX-XI стст.), калі ёю аздаблялі ў асноўным дробныя ювелірныя вырабы. Асабліва высокага ўзроўню дасягнула гэтае мастацтва ў XVI-XVII стагоддзях. У Пінску, Магілёве, Дзісне, Давыд-Гарадку, Менску, Гародні і іншых гарадах існавалі цэхі майстроў залатых і сярэбраных спраў, сярод якіх былі і чаканшчыкі. З латуні, серабра, золата яны выраблялі абклады кніг і абразоў, літургічны посуд, культавы рыштунак. У другой палове XVII стагоддзя многія беларускія майстры-чаканшчыкі працавалі ў Сярэбранай палаце Маскоўскага Крамля, дзе рабілі для царскага двара высокамастацкі посуд.

Дэкор чаканеных вырабаў, асабліва абкладаў для абразоў, якіх у цэрквах і касцёлах Беларусі захавалася нямала, уражвае багаццем і разнастайнасцю матываў, галоўным чынам раслінных. Вырабы часоў барока густа пакрыты адмыслова пераплеценымі парасткамі, кветкамі, лістамі; чаканены рознавысокі рэльеф нярэдка дапаўняецца гравіраваннем, чарненнем, залачэннем, эмалямі. У XVIII стагоддзі чаканены дэкор чаргуецца з гладкімі плоскасцямі, пад уплывам народнага мастацтва дапаўняецца матывамі мясцовай флоры (канюшына, васількі), часта набывае грубаватыя абрысы і наіўна-рэалістычны характар.

У XIX стагоддзі матывы чаканкі здрабнелі, яна нярэдка замянялася штампоўкай.

У наш час старажытнае мастацтва перажывае другое нараджэнне. Чаканкай аздабляюць не толькі невялікія мастацкія вырабы, шырока прымяняюць яе і ў афармленні грамадскіх інтэр'ераў.

**ЯЎГЕН САХУТА**

<u>З вучнёўскай творчасці</u>

**ДЗЕНЬ**

Сонца ўзышло і
стала светла.
Дзеці ў школу пайшлі.
Мама есці гатуе.
Тата пабег на працу.
Рыбкі праснуліся
і зараз будуць снедаць.
Рыбакі за вудачкі
і бягом над стаў!

**БЯРОЗА**

Бяроза калышацца.
Сініцы сядзяць на бярозе.
Песню сваю спяваюць усе.

**ЗІМА**

Прыйшоў да нас холад.
Пабялеў увесь горад.
Зараз мы паедзем з горкі
ўсе на нашых санках.

**ДУБ**

Дуб стаіць, калышацца.
На ім жалуды.
Хочуць дзеці іх дастаць,
ды ім не ўдаецца:
такі тоўсты дуб,
не могуць узлезці!

**КВЕТАЧКА**

Кветачка распусцілася.
Падабаюцца ёй
сонца, сіняе неба.
Кветачку сарвалі
і яна памерла.
І не бачыць больш
тае прыгажосці,
што тады пабачыла.

**НОЧ**

Сонца зайшло
і стала цёмна.
Запаліліся ў небе
зоркі.
Праляцеў спадарожнік.
Упаў метэарыт.
І прыйшла ноч.

**ЗІМА**

Белая зіма.
Горкі, санкі, лыжы
дорыць нам яна.

**ВЯСНА**

Вясна.
Стапіўся снег
і пацяклі ручайкі.

**ВОСЕНЬ**

Восень наступіла.
Лісты спалымнелі
і ляцяць па небе,
як матылькі.

**ВОВА КАЗБАНАЎ,**
**вучань IV„А" класа**
**124 школы ў Менску.**

220131 Беларусь, Менск, вул. Кальцова 22, кв. 119, **Уладзімір Казбанаў.**

## Адказ на „падарожжа"

**Націск — пульс мовы.** *Рака́ — рэ́чка; вясна́ — вёсны, веснавы́; сто́л — сталы́; зямля́ — зе́млі — земляны́; сеў — сядзі́; мёд — мядо́к, ле́бедзь — лебядзі́ны* і г.д.

# „МАЛЯВАНКІ” ВІКТАРА МАРКАЎЦА

Амаль ва ўсіх хатах, якія памятаю з дзяцінства, на сценах віселі палотнішчы з дзіўнымі казачнымі кветкамі і звярамі — найчасцей аленямі або лебедзямі. Яны заваражвалі, прыцягвалі зрок, абуджалі дзіцячае ўяўленне. Такіх кветак не было ў ніводным з суседскіх гародчыкаў, такія звяры таксама не сустракаліся штодзень (іншая справа, што — як пазней выявілася з падручнікаў па біялогіі і — гэтыя алені, і лебедзі выразна адрозніваліся ад сваіх жывых прататыпаў). Гэтыя габелены віселі ў парадным пакоі на ганаровым месцы, амаль заўсёды над ложкам. Былі і іншыя, белыя, падобныя на ручнікі — віселі зазвычай у кухні — з нейкімі абразкамі з жыцця і дыдактычнымі лозунгамі, тыпу: „Świeża woda zdrowia doda”. Але дзіцячую ўвагу прыцягвалі менавіта тыя першыя, намаляваныя наогул на чорным фоне. Багаты раслінны арнамент і выявы звяроў заўсёды захоўвалі сіметрыю. Так іхнім творцам уяўляўся парадак у навакольным свеце, у космасе.

У нас такія насценныя палотны называлі „макаткамі”, „дыванамі”. У Беларусі пашырана была назва „маляванкі”.

У стылі „маляванак” выканаў серыю карцін „Гістарычныя вобразы Беларусі” мастак-жывапісец Віктар Маркавец. Дзевяць карцін серыі (усе роўных памераў: 94 х 140 см) склаліся на выстаўку ў мастацкай бібліятэцы Ратгерскага універсітэта (Нью-Брансвік, ЗША):

— „Заслаўе. 1993 г. Капліца ў імя Усіх Беларускіх Святых”;

— „Полацак. XI—XVIII ст.ст. Сафійскі сабор”;

— „Навагрannotation. XII—XVI ст.ст. Фарны касцёл і руіны замка”;

— „Ліда. XIV ст. Замак”;

— „Мір. XVI ст. Замак”;

— „Навагрудак. XII—XIV ст.ст. Барысаглебская царква”;

— „Полацак. XII ст. Спаса-Ефрасінеўская царква”;

— „Нясвіж. XV ст. Слуцкая брама”.

У гэтых карцінах спалучаныя, як зазначаецца ў інфармацыйным буклеце, „прафесійны падыход сучаснага творцы ды пошук даследчыка, што вылучае з народнай традыцыі актуальныя элементы выяўленчай мастацкай формы”.

Віктар Маркавец, як шмат хто сёння з беларускіх мастакоў, звярнуўся ў сваіх працах да нашай гістарычнай спадчыны. Але, пры тым усім, знайшоў свой індывідуальны спосаб выяўлення гэтае ж тэмы — менавіта ў звароце да традыцыі народных „маляванак”.

Пытанне, ці „маляванкі” з майго дзяцінства мелі мастацкую вартасць, ці былі адно страшэннай халтурай, пакідаю на вырашэнне прафесіянальным мастацтвазнаўцам. Для мяне з'яўляюцца яны часткай — надзвычай маляўнічай, нерэальна-фантастычнай — дзіцячага свету, у якім не ўсё можна змерыць, звязаць, вытлумачыць законамі фізікі. Даследчык можа знайсці ў іх цэнны матэрыял для вывучэння пэўнага гістарычнага этапу народнай эстэтыкі, бачання свету, уяўлення прыгажосці, гармоніі, ладу.

„Маляванкі” Віктара Маркаўца, хаця далёкія ад канонаў сучаснага амерыканскага мастацтва, добра ўпісаліся — згодна традыцыі, намаляваныя яны на чорным фоне — у беласценную прастору бібліятэкі. Гледачы — у большасці людзі, што маюць прафесійнае дачыненне да мастацтва — на працягу трох зімовых месяцаў 1993—94 мелі добрую нагоду пазнаёміцца як з творчай манерай мастака, так і з помнікамі беларускай архітэктуры.

Выстаўка была магчымая, дзякуючы ўсебаковай дапамозе дырэктара бібліятэкі, мастачкі — Галіны Русак. Спадарыня Галіна плануе паказаць карціны Віктара Маркаўца таксама ў беларускіх асяродках у Саўт-Рывэры і ў Клiўлендзе.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Віктар Маркавец і Галіна Русак падчас падрыхтоўкі выстаўкі.*

# ДРУГАЯ ЧАСТКА АПІСАЛЬНАЙ ГРАМАТЫКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У 17 (1928) нумары „Нівы” за мінулы год пісаў я пра першую частку „Граматыкі беларускай мовы. Граматычны мінімум” прафесара Тэотына Рота-Жаброўскага, якую выдаў Каталіцкі люблінскі універсітэт, а ў той час з'явілася ўжо другая частка гэтай граматыкі. Поўная яе назва „Граматыка беларускай мовы. Граматычны мінімум. Частка II” */.

У адрозненне ад першай часткі „Граматыкі беларускай мовы” праф. Т. Рота-Жаброўскага, у якой даецца цэласная сістэма моўных форм (марфалогія) беларускай мовы, а таксама фанетыка, графіка, арфаграфія і словаўтварэнне, другая частка граматыкі люблінскага вучонага ўяўляе сабою спосаб спалучэння гэтых форм у словазлучэнні і сказы (сінтаксіс). Складаецца яна з наступных асноўных дзевяці раздзелаў: „Словазлучэнне”, „Просты сказ”, „Складаназлучаны сказ”, „Складаназалежны сказ”, „Бяззлучнікавыя складаназалежныя сказы”, „Складаныя сінтаксічныя канструкцыі”, „Перыяд”, „Простая і ўскосная мова” і „Пунктуацыя”.

У першым з іх прафесар аналізуе тыпы словазлучэнняў і іх віды сувязі слоў у словазлучэнні, у другім — сказ і яго прызнакі, тыпы сказаў па мэце выказвання і структуры, члены сказа, як галоўныя (дзейнік і выказнік), так і даданыя (дапаўненне, азначэнне, прыдатак і акалічнасці), сувязь выказніка з дзейнікам, а акрамя гэтага — аднасастаўныя, нечлянімыя і няпоўныя сказы, а таксама сказы з аднароднымі і адасобленымі членамі і словы, граматычна не звязаны са сказам.

У раздзеле „Складаназлучаны сказ” вучоны Каталіцкага люблінскага універсітэта паказвае сказы, звязаныя між сабою злучальнымі злучнікамі, якія па характару сэнсавых адносін паміж простымі сказамі і выражаючымі гэтыя адносіны злучнікамі дзеляцца на спалучальныя, супраціўныя, размеркавальныя і ўступальныя.

Найбольш месца ў другой частцы „Граматыкі беларускай мовы” праф. д-ра габ. Тэотына Рота-Жаброўскага, акрамя ўспомненага тут простага сказа, адведзена складаназалежнаму. У раздзеле „Складаназалежны сказ” характарызуюцца дзейнікавы, выказнікавы, дапаўняльны і азначальны даданыя сказы, а таксама акалічнасныя — часу, месца, прычыны, мэты, умовы, уступкі, спосабу, меры і ступені. Акрамя гэтага вучоны прадставіў у ім даданыя параўнальныя сказы, даданыя сказы выніку, а затым — супастаўныя і далучальныя. Асобны кароткі раздзел прысвечаны бяззлучнікавым складаназалежным сказам.

Чарговыя два невялікія раздзелы люблінскі славіст прысвяціў складаным сінтаксічным канструкцыям у беларускай мове (г. зн. сказам, у склад якіх уваходзяць простыя, складаназлучаныя і складаназалежныя, а таксама пабочныя словы і адасобленыя члены сказа) і перыяду, г. зн. сказу ўскладненага тыпу, які ў вымаўленні падзяляецца на дзве часткі: павышэнне і паніжэнне. Паўза ў вымаўленні яго на пісьме адзначаецца коскай і працяжнікам. Свaім аб'ёмам прымыкае да іх і раздзел пра простую і ўскосную мовы.

У заключным раздзеле сваёй граматыкі праф. Жаброўскі паказаў прынцыпы беларускай пунктуацыі. Складаюць яго дзесяць падраздзелаў, прысвечаных такім знакам беларускай пунктацыі, як: кропка, пытальнік, клічнік, шматкроп'е, коска, кропка з коскаю, двукроп'е, працяжнік, дужкі і двукоссе.

Другая частка „Граматыкі беларускай мовы” праф. Жаброўскага, так як і першая, прызначана перш за ўсё студэнтам беларусістыкі Аддзялення гуманітарных навук Каталіцкага люблінскага універсітэта і мае яна навуковы характар. Аўтар прадставіў у ёй увесь сінтаксіс у вельмі сінтэтычнай, але цэласнай форме, што разам з фанетыкай, графікай і арфаграфіяй, словаўтварэннем і марфалогіяй першай часткі дае поўнае ўяўленне пра беларускую граматыку, а прынамсі пра яе зыходныя, галоўныя палажэнні. Праўда, так як і ў першай частцы, і ў другой часам можна знайсці русізмы, але не адыгрываюць яны ў ёй большага значэння. Да кніжкі, якая выйшла тыражом 1000 экзэмпляраў, далучаны спісак памылак друку. Навуковым рэцэнзентам абедзвюх частак „Граматыкі беларускай мовы. Граматычны мінімум” праф. д-ра габ. Тэотына Рота-Жаброўскага з'яўляецца праф. д-ра габ. Веслаў Віткоўскі. Як я ўжо пісаў раней, „Граматыка беларускай мовы” люблінскага вучонага-мовазнаўцы — гэта першае гэтакага роду выданне ў пасляваенняй Польшчы. Такім чынам прафесар далучыў да нешматлікай кагорты тых, якія пачатак навуковай распрацоўкі граматыкі беларускай мовы далі ўжо ў канцы XVI ст., а былі гэта, між іншым, Лаўрэнцій Зізаній, Павел Шпілеўскі, Іван Нядзёшаў, Яўхім Карскі, Карусь Каганец і Браніслаў Тарашкевіч.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

---

*/ Teotyn Rott-Żebrowski, Gramatyka języka białoruskiego. Minimum gramatyczne. Część II, Redakcja Wydawnictw Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, Lublin 1992, ss. 70

# А ПЕСНЯ Ў СЭРЦЫ ЗАСТАЛАСЯ...

І доўга слухачы яшчэ будуць насіць яе ў сабе, успамінаючы нядзелю, 22 лютага гэтага года ў Доме культуры ў Гайнаўцы, калі тут праходзіў раёны агляд конкурсу „Беларуская песня'94”. Прыйшло сюды многа людзей паслухаць беларускія народныя песні. І колькі моладзі было сярод слухачоў!

Розныя калектывы прайшлі перад гледачамі, між іншым, „Каліна” з Дашоў (ён святкаваў нядаўна 15-годдзе сваёй дзейнасці), „Арэшкі” з Арэшкава (існуе 20 гадоў), „Цаглінкі” са Старога Ляўкова (яму споўнілася 15 гадоў і неўзабаве члены калектыву збіраюцца адзначыць гэты юбілей), 12-гадовы вялікі беларускі хор Дома культуры ў Гайнаўцы, „Любашкі” з Дабрывады (калектыў святкаваў 25-годдзе свайго існавання), „Тыневічанкі” з Тыневічаў і „Чыжаўяне” з Чыжоў. Адгучалі мелодыі, што прынеслі нам пахі родных палёў і лугоў, пах раллі, з якой збіраем хлеб, адвечны непакой за чалавечы лёс, але і ўнеслі радасць стваральнай працы, радасць жыцця.

Шасцігадзінны канцэрт-марафон (з двума кароткімі перапынкамі) трымаў слухачоў у добрым настроі. Радавала высокае мастацтва. І не было хвіліны нуды. Агляд-фестываль захапляюча вёў дырэктар Дома культуры ў Гайнаўцы — Мікалай Бушко. Шматгадзінны канцэрт праляцеў як адна гадзіна. Змяняліся выканаўцы, а кожны новы ўносіў у канцэрт нешта сваё асаблівае, непаўторнае.

Выканана было каля 80 песень, і ні адна з іх не паўтарылася. Гучалі ў конкурсе папулярныя народныя песні вядомых кампазітараў. Багата выпаў наш аўтэнтычны мясцовы фальклор. З найстарэйшымі і найпрыгажэйшымі песнямі, створанымі стагоддзямі назад, прыехалі на агляд жаночыя калектывы з Дабрывады, Дашоў, Арэшкава, Чыжоў, Тыневічаў, Курашава і Вулькі-Тэрахоўскай.

Зусім у іншым стылі, чымсьці аўтэнтычныя фальклорныя песні, прагучалі папулярныя народныя песні ў апрацоўцы сучасных кампазітараў і музыкантаў. Падрыхтаваны яны былі так, каб падабаліся сённяшняму слухачу. Тут добра праявілі сябе „Чыжавяне”, хор Дома культуры ў Гайнаўцы, „Незабудкі” з Курашава, „Цаглінкі” з Ляўкова, „Любашкі” з Дабрывады, дзяўчаты з Белліцэя ў Гайнаўцы, жаночыя калектывы з Нараўкі і Макаўкі.

Сучасныя песні выконвала перш за ўсё моладзь з Чаромхі, Гайнаўкі, Нараўкі і Нарвы. Былі салісткі і гурты. Добра зарэкамендавалі сябе вакальна-інструментальныя калектывы: „Рэаль” з Гайнаўкі, „Прэтэкст” з Нараўкі ды „АДМ” з Гайнаўкі з салісткай Анна Гвоздзік.

Так вось адбыўся раённы агляд беларускай песні ў Гайнаўцы. Чарговыя падобныя мерапрыемствы яшчэ запланаваў ў Беластоку і ў Бельску-Падляшскім. А затым — цэнтральны агляд-фестываль у Беластоку, у пачатку сакавіка, ужо юбілейны 25-ты наш конкурс беларускай песні. У чарговы раз пераконваемся аб тым, што родная песня стала неад'емнай часткай жыцця беларусаў у Польшчы, што ў беларускіх асяроддзях у Польшчы маюцца багатыя таленты.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# СВЯТАЯ ЧАТЫРАДЗЕСЯТНІЦА

14 сакавіка г. г. пачынаецца Святая Чатырадзесятніца, званая таксама Вялікім Постам. Першая назва паведамляе аб колькасці дзён у гэтым посце, а другая назва згадвае аб яго значэнні. Гэта самы важны з усіх постаў у нашай Царкве. Ён рыхтуе нас да самага вялікага свята — Праздника Праздников — Святога Уваскрэсення Хрыстова. Сам Вялікі Пост працягваецца 40 дзён, а пасля яго наступае яшчэ Вялікі Тыдзень — асаблівы з увагі на згаданыя здарэнні з жыцця Хрыста.

Вялікі Пост выводзіцца са старазапаветнай традыцыі (IV Майс., 29:7; 2 Царств., 12:16), а ў Новым Запавеце сам Збавіцель даў нам прыклад посту (Мацв., 4:2) і ўспомніў аб яго значэнні (Мацв., 17:21).

З перыядам кожнага посту, а Вялікага асабліва, спалучаецца Пакаянне — спосаб ачышчэння нашай грэшнай душы. Пакаянне, якое шляхам настойлівай малітвы, посту і споведзі рыхтуе нас да Таінства Прычашчэння, павінна быць адначасна штуршком да нашага адраджэння. Сапраўднае пакаянне — гэта не толькі прызнанне ў сваіх грахах, але і духоўнае адраджэнне, змена ў лепшым накірунку думак, учынкаў і паводзін. Толькі такое пакаянне дазволіць нам дастойна сустрэць Пасху Гасподнюю. Вялікі Пост — гэта перыяд, які асабліва спрыяе нашаму духоваму адраджэнню. Гэтаму дапамагае нам усё: набажэнствы, убранне царквы, аблачэнне святароў. Святая Чатырадзесятніца — гэта канон Св. Андрэя Крыцкага (чытаецца вечарам на працягу першых чатырох дзён і ў сераду на пятым тыдні), гэта Літургії Папярэднеасвячоных Дароў, якія спраўляюцца па серадах і пятніцах. Гэта таксама велікапосная малітва Св. Яфрэма Сірына з вялікімі і малымі паклонамі (чытаецца яна падчас усіх багаслужбаў апрача суботы і нядзелі, калі не становімся на калені) і нядзельныя вячэрнія Страсныя богаслужэнні, т.зв. Пасіі.

У час Вялікага Посту абавязвае нас забарона спажываць мяса і іншыя жывёльныя прадукты. На працягу першых двух дзён (а прынамсі ў першым) і ў Вялікую Пятніцу мы не павінны нічога есці. Таксама і ў Вялікую Суботу абавязвае нас строгі пост без алею і варанай стравы. У гэтым посце абавязваюць наступныя прынцыпы — алей можна есці толькі ў суботы і нядзелі, у Вялікі Чацвер і некаторыя святочныя дні (а таксама невялікую колькасць віна для падмацавання цела тым, якія асабліва строга посцяць). Рыбу ямо толькі на Благавешчанне і на Уваход Гасподзен у Іерусалім. Канешне, дзяцей, бярэменных жанчын, хворых і старых такі строгі пост не абавязвае.

Большасць з нас таксама, пэўна, не будзе магчы пасціць у такі спосаб, але памятаючы, што гэта наша ахвяра Богу, мы павінны пасціць хаця б па меры нашых духовых і цялесных сіл. Калі ў першы дзень посту або ў Вялікую Пятніцу не зможам пасціць увесь дзень, то хаця прытрымоўваймася посту да заходу сонца ці да моманту вынасу Св. Плашчаніцы. Памятайма таксама аб духовым посце, а менавіта аб нашых думках, словах, учынках, аб нашых паводзінах.

Кожная велікапосная нядзеля мае сваю назву:

**I. Трыумф Праваслаўя**, устаноўленая ў 842 г. пры імператрыцы Фядоры ў знак перамогі Праваслаўя над усялякімі ерасямі; завуць яе таксама нядзеляй усіх праваслаўных.

**II. Св. Рыгора Паламы** (памёр каля 1360 г., архіепіскап Фесалонікаў), званая таксама нядзеляй манахаў.

**III. Крыжапаклонная** — Святы Крыж, які ляжыць на сярэдзіне царквы на аналоі, як ружжо нашага Збавення, мае дадаць нам духовае і цялеснае сілы на далейшую дарогу шляхам Вялікага Посту.

**IV. Прападобнага Іаана Лесвічніка** (пам. 563 г.) — манах з гары Сінай, які амаль пяцьдзесят гадоў свайго жыцця правёў у адзіноце на пустыні. Навучаў, што духовае жыццё падобнае да драбіны, па якой чалавек у ходзе свайго развіцця ўваходзіць на чарговую перакладзіну, што вядзе да Бога.

**V. Прападобнай Марыі Егіпцянкі** (пам. у I ст.) — яе жыццё — прыклад таго, што нават самому вялікаму грэшніку адкрытая дарога да збавення; мусіць ён толькі хацець падняцца з падзення і ўвайсці на шлях збавення.

— **Велікапосныя суботы** — у першую суботу ўшаноўваем памяць Св. Фёдара Тырона; другая, трэцяя і чацвёртая — гэта Радзіцельскія памінальныя суботы, пятая — субота Акафіста або Пахвала Багародзіцы.

Вялікі Пост як Чатырадзесятніца канчаецца ў пятніцу шостага тыдня. Канешне, далей, аж да Вялікай Суботы таксама працягваецца пост, аднак вылучаецца ён з усяго перыяду посту. Перш за ўсё гэта два дні, якія быццам спалучаюць Св. Чатырадзесятніцу са Страснай Сядміцай — гэта Субота Тчэна і Уваход Гасподзен у Іерусалім. У гэтыя дні можна есці рыбу. Пасля іх наступае апошні тыдзень посната перыяду — Вялікі Тыдзень — асаблівы з увагі на ўспамінанне апошніх дзён жыцця Хрыста на зямлі, яго пакутаў і смерці.

**С. Н.**



# ЭКУМЕНІЯ НА ПРАКТЫЦЫ

Беластоцкае радыё і мясцовы друк у канцы студзеня абвясцілі жыхарам Беласточчыны, што ў сталіцы ваяводства адбылася сустрэча лідэраў і дзеячоў правых партый. У гэтым спатканні ўдзельнічалі таксама беластоцкі мітрапаліт арцыбіскуп Станіслаў Шымэцкі, які пасля аплаткі выказаў пажаданне, каб дзеля экуменічнага супрацоўніцтва перадаць Супрасльскі праваслаўны манастыр гуманітарным установам для закватаравання бяздомных, бедных, наркаманаў ды іншых, патрабуючых дапамогі людзей.

Я таксама за тым, каб дапамагаць бедным і высока ацэньваю заклапочанасць шаноўнага душпастыра такімі людзьмі. Але мне, здаецца, што арцыбіскуп не паспеў яшчэ, з-за кароткага прабывання ў нашым горадзе, разабрацца ў спецыфіцы працы беластоцкай Курыі ды пазнаёміцца з абставінамі ў горадзе і ў рэгіёне. Намер пасяліць бездапаможных у Супрасльскі праваслаўны манастыр сведчыць толькі аб тым, што ў арцыбіскупа прадузятыя дарадчыкі. На маю думку найбольш адпаведным месцам для ажыццяўлення такой задумы быў бы будынак у цэнтры Беластока, пры вуліцы Рынак Касцюшкі н-р 5. Людзі, якія б у ім знайшлі прытулак, мелі б блізенька да касцёла, дзе маглі б памаліцца і падзякаваць Богу за жыллё і апеку. Блізка было б ім, знясіленым хваробамі, і да раённай амбулаторыі. Згэтуль больш жвавым падапечным рукой падаць у рэстаран „Асторыя", кіно „Тон" і драматычны тэатр. А тым старэчам, якія хацелі б пагандляваць, недалёка было б на базар ля Юравецкай. Адным словам, лепшага месца і не прыдумаеш.

Беласток не параўнаць да Супраслі — малога мястэчка, пазбаўленага сапраўднай гарадской інфраструктуры. Але калі не знойдзецца бедалагам месца ў сталіцы ваяводства і трэба будзе вывесці іх з горада і пазбавіць даброт цывілізацыі, тады, на маю думку, больш адпаведным для гэтых няшчасных людзей быў бы кляштар у Ружаным Стоку.

Калі арцыбіскуп так зробіць, тады будзе гэта праўдзівы экуменізм, выяўлены на практыцы. Шчыра заахвочваю ажыццявіць гэты шляхетны намер.

**Ю. ПРАКАПОВІЧ**
**(адрас да ведама рэдакцыі)**

# БЕЛАРУС — КАТОЛІК ЦІ ПАЛЯК?

На рэлігійнай карце Беларусі, другое месца пасля праваслаўнай Царквы займае рымска-каталіцкая Царква. У нядалёкім мінулым становішча веравызнанняў у Беларусі ні ў чым не адрознівалася ад аналагічнай сітуацыі ва ўсіх астатніх рэспубліках Савецкага Саюза: зруйнаваныя і зачыненыя „спраўдзіліва" былі манастыры і храмы ўсіх канфесіяў. Праваслаўе, як вядучае ў колькасным сэнсе, захавала нават у часы найгоршых праследаванняў найбольш духавенства, храмаў і парафіяў, якіх напрыканцы 80-х гадоў было 400, а зараз — звыш 1000.

У рымска-каталіцкай Царкве на 445 касцёлаў і капліцаў, якія існавалі ў цяперашніх межах Беларусі перад II сусветнай вайной, на пачатку 80-х гадоў іх было 60. На пачатку 90-х гадоў пачаўся бурны колькасны рост рымска-каталіцкіх парафіяў. У мінулым годзе, каталікі мелі ўжо звыш 300 касцёлаў і капліцаў, пераважна ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі.

Апрача краху камунізму, адным з важных фактараў адраджэння катыліцызму ў Беларусі, быў прыняты 1 кастрычніка 1990 года „Закон аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыяў". Месяц пазней у Гародні адкрываецца духоўная семінарыя, у якую адразу паступае каля 40 кандыдатаў у святарства. У 1991 годзе, папа Ян Павел II прызначыў біскупа Тадэўша Кандрусевіча апостальскім адміністратарам у Маскве. Год пазней Ватыкан рэарганізаваў касцельныя структуры на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза і высвяціў новых біскупаў. У адмысловай заяве, апублікаванай у Ватыкане, між іншым, гаворыцца: „70 гадоў атэізму з перыядамі ўзмоцненага праследавання рэлігіі змянілі рэлігійную тапаграфію у Савецкім Саюзе. Цяперашняя адбудова касцельных структураў стала магчымай дзякуючы нядаўна прынятаму новаму закону. Ватыкан будзе намагацца забяспечыць духоўную апеку рымскім каталікам на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза".

Ватыкан не мае дакладных даных адносна колькасці каталікаў у былым СССР (лацінскага і ўсходняга абрадаў) аднак прыступіў да „забяспечвання духоўнай апекі" над імі надзвычай энергічна. Не зважаючы на шматлікія пратэсты праваслаўных іерархаў, краіну ахрышчаную 1000 гадоў таму Ватыкан аб'явіў „місійнай тэрыторыяй". Паводле ватыканскіх крыніцаў у Казахстане — 500 тысяч каталікаў (усіх нацыянальнасцяў). У юрысдыкцыі і паводле даных Апостальскага Адміністратара — ў Маскве (біскупа Кандрусевіча) — 60 тысяч. Аднак пераважная большасць каталікаў лацінскага і ўсходняга абрадаў — у Беларусі. Паводле ватыканскіх даных іх лічба дасягае 1,5 мільёна, хаця біскуп Кандрусевіч ацэньвае колькасць вернікаў лацінскага абраду на 700 тысяч а уніяты наогул маюць толькі 7 святароў і ніводнага храма. Польскія крыніцы ўпарта падаюць суму 2,5 мільёна каталікаў (25% агулу насельніцтва), пры чым, што цікава, амаль 100% іх лічаць г. зв. „крэсовымі" палякамі, толькі „збеларушчанымі". Для параўнання, амерыканскі часопіс Catholic World Report у сваім студзенскім нумары з гэтага года, падае наступную статыстыку: праваслаўных — 77,2%, каталікаў — 6%, уніятаў — 1,1%, абыякавых, атэістаў і агностыкаў — 19,4%.

Хаця, як падкрэсліваe біскуп Кандрусевіч, „польскую мову, нават на Гродзеншчыне, амаль ніхто не ўжывае і не разумее", каталіцкі касцёл усё роўна лічыць іх палякамі. Багаслужбы адбываюцца пераважна на польскай мове. Няма афіцыйна прызнаных перакладаў „мшалаў", катэхізісаў і службоўнікаў, хаця рэлігійныя песні часта выконваюцца па-беларуску. Нешматлікія беларускамоўныя ксяндзы, якія дарэчы ніколі не знаходзілі зразумення ў сваіх іерархаў (кс. кс. Чарняўскі, Сапель, Пятрайціс і пару іншых) не ў стане змяніць інерцыю большасці духавенства і агульнай накіраванасці на польскасць. На 60 мясцовых ксяндзоў, 13 мае ўжо звыш 80 гадоў. У сувязі з недахопам святароў, у Беларусь масава (звыш 100) пачалі прыязджаць ксяндзы з Польшчы. Робяць яны ўсё магчымае, каб разбудзіць сярод вернікаў польскую нацыянальную свядомасць. Незважаючы на пратэсты з боку Беларускага народнага фронту і іншых арганізацыяў, якія афіцыйна звярнуліся ў Ватыкан „прысылаць любых місіянераў, толькі не палякаў", ксяндзы экспануюць партрэты польскага прэзідэнта, польскія сцягі, рупліва пашыраючы польскую мову і культуру. Калі я асабіста запытаў прэзідэнта Валэнсу, як ацэньвае ён такую дзейнасць, ён адказаў няясна, як быццам праблема не існуе. Нават арганізаваныя для беларускіх дзяцей летнія канікулы ў Польшчы паўсюдна выкарыстоўваюцца для павярнення ў каталіцызм і ў польскасць. Дзеля гэтага рыхтуюцца і кадры. Паколькі ж беларускія ўлады вымагаюць, каб прыязджыя з Польшчы ксяндзы валодалі расейскай або беларускай мовай, для іх гэта не праблема. Журналістка Алена Тарасэвіч вучыць каля Кельцаў ксяндзоў, якія паедуць у Беларусь — беларускай мовы. Вывучаюць яе таксама, зразумела не з любві да беларускай мовы — клірыкі Гродзенскай каталіцкай семінарыі.

Усе вышэй названыя лічбы недакладныя і хутка мяняюцца. Кажуць, што ёсць тры ступені хлусні: хлусня, нахабная хлусня і... статыстыка, але справа зусім не ў лічбах. Справа ў з'яве. У Беларусі няма нацыянальнай Царквы. Праваслаўе заканане ў „обшчэпонятнам языке" прадстаўляе інтарэсы іншага народа і пашырае чужую культуру. Гэтак як праваслаўе русіфікуе беларускі народ, каталіцызм апалячвае яго. Каталікоў, а тым больш палякаў, ніколі не было на Беларусі 2,5 мільёна. Справа ў тым, што хутка столькі іх можа быць...

**К. Б.**




*БАРЫС РУСКО*

## САКАВІК

Становжны панцыр у зямлю ўпаўзае,
хрыбет угінаецца пад шэрым зместам.
На камянях, пад пугай дня,
як зайцы, скачуць ручаі.
Зяблая птушка на галіне
клюе лапіну сонца ў смак.
Грудзей набрынялай зямлі
чакаюць кветкі-сысуны.
Радасць! Ад крылаў трапятання —
і на душы астылай узлёт.

# НАВІНЫ З ВАРШАВЫ

Па запрашэнню Варшаўскага аддзела БГКТ, 24.02.1994 г. з беларускім асяроддзем Варшавы спаткаўся айцец Анатоль Шыдлоўскі — настаяцель царквы на Волі і вікарый гэтага ж прыхода айцец Мікалай Лянчэўскі (малодшы). Айцец А. Шыдлоўскі выступіў з цікавым дакладам на тэму гісторыі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Пачынаючы ад Кірылы і Мяфодзія ды перыяду Кіеўскай Русі, ахарактарызаваў час Вялікага княства Літоўскага, перамены ад Люблінскай уніі 1569 г., а пасля вынікі Брэсцкай уніі 1596 г., праблему езуітаў і уніятаў. Абвяргнуў гэтым самым паўтарaемы ў каталіцкіх кругах Польшчы міф, што праваслаўе быццам прынёс у Польшчу рускі цар. Расейскія цары хутчэй прычыняліся да адбудовы праваслаўнай царквы, ажно да I сусветнай вайны. Далей дакладчык наблізіў слухачам праблемы міжваеннага часу: змаганне за аўтакефалію супроць тэндэнцыям падпарадкавання расейскаму сіноду, паланізацыйныя цячэнні, канфесійную адукацыю, урэшце разбуранне праваслаўных храмаў на Холмшчыне. Вядомы наогул перыяд II сусветнай вайны і пасляваенныя ўмовы дакладчык патрактаваў, з-за недахопу часу, павярхоўна, прыпамінаючы важнейшыя здарэнні. У дыскусіі ўдзельнікі сустрэчы падкрэслілі вынікі працы абодвух святароў у галіне інтэграцыі вакол царквы на Волі праваслаўнага асяроддзя, асабліва дзяцей і моладзі. Дзякуючы сістэматычнаму навучанню рэлігіі ды арганізаванню адмысловай літургіі для школьнікаў з актыўным іх удзелам, ды дзякуючы сяброўскім спатканням пасля набажэнстваў, арганізаваным сумесным канікулам, святочным мерапрыемствам як калядная ёлка ці велікодныя ўрачыстыя спатканні, круг маладых вернікаў вельмі павялічыўся, а з ім вырасла і зацікаўленне бацькоў. Многія з іх актыўна ўключыліся ў працу царквы, тым больш, што паявілася магчымасць арганізаваць і бацькоўскія спатканні, аб'ядноўваючыя прыхаджан розных нацыянальнасцяў. Кожная нацыянальная група паспяхова ўносіць у спатканне акцэнт сваёй культуры ў сімбіёзе з іншымі. Украінцы — хвала ім — сарганізавалі нават навучанне роднае мовы, чаго, на жаль, не ўдалося яшчэ беларусам, хоць яны састаўляюць каля 80% прыхаджан. Прадметам меркаванняў была магчымасць распаўсюджвання „Нівы" цераз царкоўны свячны ящчык. Прысутныя выявілі гэтым зацікаўленне, а настаяцель царквы — прыхільнасць да ўзнятых праблемаў. Была згадана дыскутантамі і неабходнасць пабудовы прыхадскога дома дзеля стварэння ўмоваў для катэхетычнай і царкоўнаграмадскай дзейнасці. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, пытанне будовы ўжо фактычна вырашана і атрымала блаславенства Яго Блажэнства Мітрапаліта Васілія. Апрацаваны ўжо таксама ўступны праект будоўлі. На заканчэнне спаткання быў прадэманстраваны фільм — справаздача з пераносу мошчаў Св. Младзенца Гаўрыіла з Гродзенскага ў Беластоцкі сабор.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ДЗЕНЬ МАЙГО ВЫЗВАЛЕННЯ

### 5 лютага 1945 г.

Раніцай, з паўночнага боку нашага дома, дзесьці ўнізе ашалела затрашчаў кулямёт. Я і Лідка, заспаныя пасля неспакойнай ночы, выскачылі з ложка і сталі апранацца. Хаця на двары стаяў невялічкі мароз, у нашым неабагрэваным пакойчыку па паддашшы было холадна.

Унізе нехта адчыніў дзверы ў дом, пачуліся галасы, рускія. Праз тры-чатыры мінуты раздаўся грукат ботаў па лесвіцы, што вяла на гарышча. Мы толькі што паспелі апрануцца, калі ў дзвярах з'явіліся чатыры рускія салдаты:

— Вы кто? — спыталі.

— Мы свои, — адказаў я. — Мы — вывезеные сюда на работу.

У пакой увайшлі тры салдаты ў шэрых шынялях з аўтаматамі ў руках, чацвёрты застаўся вартаваць пры дзвярах. Сталі яны распытваць нас, як мы тут жывём, разглядацца па пакойчыку, а адзін з іх папрасіў у мяне закурыць. Хаця я і не курыў, аднак бацькі некалі прыслалі мне махорку. Я дастаў з шуфляды стала самасейку, салдаты выцягнулі кавалкі газеты, сталі рабіць скруткі і курыць. Потым усе разам мы сышлі ўніз.

Савецкі палкоўнік заняў правае крыло дома на свой штаб. Баўэра з сям'ёй выгналі ў левае крыло, у якім яшчэ ўчора размяшчаўся нямецкі штаб. Пабачыўшы Лідку, адзін з афіцэраў загадаў ёй падрыхтаваць ім снеданне. Я застаўся ў сенцах з радавымі.

Салдаты сталі мне распытваць пра наша, прымусовых работнікаў, жыццё тут, калі падышоў да нас баўэр. „Как там Гитлер?", — запытаў адзін салдат. Немец, пачуўшы прозвішча свайго фюрэра, адказаў: „Гітлер іст капут!". Чырвонаармейцы засмяяліся, а адзін з іх спытаў мяне: „Ну, как он к тебе относился? Хочешь, выведём его и расстреляем". Я не хацеў гэтага, стаў ім тлумачыць, што мой баўэр не быў шкодным чалавекам. Немец глядзеў на мяне і не разумеў, што я ратую яму жыццё. Калі б я толькі сказаў яго расстраляць, салдаты ахвотна зрабілі б гэта.

Раптам адзін з салдат, паказаўшы на баўэраву руку, спытаў: „Ур?" Немец адразу выцягнуў з кішэні штаноў гадзіннік на ланцужку, а салдат узяў яго ў рукі, агледзеў з усіх бакоў, адкрыў цыферблат, цмокнуў і схаваў яго сабе ў кішэню. Іншыя глядзелі і толькі ўсміхаліся. Відаць, у іх была гэта нармальная з'ява.

Пасля мы разышліся. Знаходзіцца на панадворку было небяспечна, бо з-за ракі немцы стралялі шрапнельнымі снарадамі, якія разрываліся высока ў паветры. Я ўвайшоў у левую частку дома. Прысцяне акна сядзелі баўэр, ягоны сын Бруна, сястра з мужам і дачкой. Разам з імі было некалькі рускіх салдат і дзве полькі, якія аднекуль тут з'явіліся. Салдаты ўваходзілі і выходзілі з памяшкання. Немцы снедалі — елі бутэрброды з чорнага глеба і мяса, частавалі салдат, пачаставалі і мяне. Кухня, на якой завіхалася Лідка, была занята для афіцэраў і не рэкамендавалася туды ўваходзіць. Я толькі раз зайшоў сюды напіцца збожжавай кавы. Лідка смажыла афіцэрам бліны з мукі, якой поўна было ў склепе.

Салдаты сталі мяне распытваць, адкуль я ведаю рускую мову, паколькі нарадзіўся ў Польшчы. Раптам адзін з салдатаў падышоў да мяне і крыкнуў: „Не слушайте его, это наверно власовец или немецкий полицай!". Я стаў тлумачыць, што не мог быць паліцэйскім, паколькі ўжо два гады прымусова працую тут, а сведкамі гэтаму можа быць сям'я баўэра. „Разве мы должны верить немцам? — ускіпеў ён і пачырванеў са злосці. — Жаль, что у меня нету времени с тобой расправиться. Я уже иду на передовую. Но я ещё сюда прийду!" Ён адвярнуўся і пайшоў. „Не обращай на него никакого внимания, — сказаў іншы салдат, — на фронте разных людей можно встретить. Возможно, что его обидел какой-то полицай".

Пасля абеду з'явіўся ў нас даволі малады, прыгожы і невысокі капітанпалітрук у цёмна-сінім шынялі. Падышоў ён да немцаў і стаў ім тлумачыць па-нямецку, што савецкая армія прыйшла сюды не знішчаць немцаў, а толькі фашызм. „Мы хочам толькі ачысціць вас ад атруты фашызму, а пасля немцы будуць мець сваю новую дзяржаву, вольную ад нянавісці і фашызму", — гаварыў ім. Я ўважліва прыслухоўваўся ягонай прапагандзе, з увагай слухалі немцы. І раптам прыйшла да мяне Лідка і села побач. „Я пасяджу з табой, бо мне ўжо там надаела. Чапляюцца, робяць непрыстойныя прапановы. Хай думаюць, што я — твая жонка", — прашаптала мне.

*(заканчэнне будзе)*



## ТЭЛЕСКАНДАЛ

Пра тое, што многія жыхары блёкаў у Беластоку не маюць магчымасці глядзець перадачы Беларускага тэлебачання, пісалі мы ў 9 нумары „Нівы" ад 27 лютага г.г. („Чаму так яно ёсць?). Сёння друкуем ліст жыхароў квартала „Пяскі" да прэзідэнта горада Беласток ў гэтай жа справе.

* * *

**Pan Prezydent
miasta Białegostoku**

W imieniu 152 mieszkańców naszego osiedla „Piaski" zwracam się z prośbą o interwencję u Prezesa Spółdzielni Mieszkaniowej „Piaski" pana Rogowskiego celem przywrócenia możliwosci odbioru telewizji białoruskiej z Mińska.

W tej sprawie zwracaliśmy się bezpośrednio do Prezesa Rogowskiego pismem z dnia 4.05.1993 roku, w którym zamieściliśmy motywację swojej prośby i w której znalazły się owe 152 podpisy mieszkańców naszego osiedla. Skutek był taki, że zrealizowano naszą prośbę połowicznie tzn. przywrócono możliwość odbierania telewizji moskiewskiej. Telewizji białoruskiej dalej nie możemy odbierać.

Panie Prezydencie!

Czy nam, Białorusinom — mieszkańcom tego miasta, płacącym jak wszyscy inni czynsze i podatki, nie przysługuje prawo oglądania programu telewizyjnego w naszym języku?

Czy w ten sposób można zmierzać do cywilizowanej Europy?

Czy tak ma wyglądać tolerancja w wydaniu białostockim?

Wiadomym jest dla nas, że na Białorusi są możliwości oglądania polskich programów telewizyjnych. Zresztą, dobrowolnie podpisane układy między Polską a Białorusią nakładają na rządy tych państw obowiązek stwarzania możliwości różnym kontaktom kulturalnym społeczeństw tych krajów, co sprzyjać powinno lepszemu zrozumieniu i współżyciu przecież bliskich sobie sąsiednich narodów słowiańskich.

Prosimy o przychylne ustosunkowanie się do naszej prośby i spowodowanie pozytywnego jej załatwienia.

W imieniu 152 mieszkańców
osiedla „Piaski"
**Włodzimierz Pawłowski**

P.S. Nadmieniam, ze warunki techniczne odbioru telewizji białoruskiej w naszym osiedlu są, gdyż wcześniej była ona odbierana.

## ПРАТЭСТ

Развесяліў мяне Васіль Петручук сваім пратэстам-развітаннем з „Нівай". Зрабіў гэта вельмі арыгінальна, але я не думаў, што гэта зусім сур'ёзна. Як шматгадовы карэспандэнт тыднёвіка я быў сведкам не аднаго такога развітання. Адпачыўшы трошку, мае калегі найчасцей, аднак, вярталіся на старонкі „Нівы". Думаю, што апошняя слова не сказаў таксама і Васіль Петручук. Але нейкі час будзе нам бракаваць яго артыкулаў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

### Частка V

Вялікай падзеяй у маіх сувязях з Наталляй Арсенневай быў выхад у свет вялікага збору яе твораў „Між берагамі" (Нью-Йорк, 1979 год). Кнігу гэту выдаў заслужаны для развіцця беларускай культуры і літаратуры за мяжой Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Амерыцы.

Галоўная каштоўнасць гэтага зборніка заключалася ў двух аспектах. Першы з іх у тым, што амаль на 350-ці старонках была апублікавана велізарная колькасць вершаў паэткі з розных перыядаў Яе жыцця. Другі цэнны аспект кнігі праявіўся ў тым, што ў ёй быў змешчаны глыбінны творчы і біяграфічны нарыс пра жыццё і творчасць Наталлі Арсенневай, які выйшаў з-пад бліскучага пяра выдатнага эміграцыйнага крытыка Антона Адамовіча.

Крытык гэты ўжо ў дваццатыя гады, будучы маладым хлопцам, пісаў бліскучыя артыкулы, прысвечаныя творчасці Максіма Гарэцкага. З волі сталінскай сістэмы крытык Антон Адамовіч і пісьменнік Максім Гарэцкі падзялілі лёс — абодва былі арыштаваны і высланы ў лагеры. Далейшыя іх лёсы, аднак, разышліся. Максім Гарэцкі быў забіты, а Антона Адамовіча — перавезлі з лагера ў Мінск для судовага разбору яго справы і якраз у гэтым часе выбухнула вайна, якая прынесла яму свабоду.

З біяграфічна-крытычнага нарыса А. Адамовіча, прысвечанага Наталлі Арсенневай, даведаўся я аб многіх фактах, якія ўзбагацілі мае веды пра жыццё і творчасць паэткі. І так даведаўся я, што Наталля Арсеннева пасля ўпадку Польшчы ў 1939 годзе была арыштавана савецкімі ўладамі і саслана ў Казахстан. У выніку інтэрвенцыі Саюза пісьменнікаў БССР была ўвольнена са ссылкі і вярнулася ў Беларусь. У час нямецкай акупацыі супрацоўнічала з гэтымі беларускімі сіламі, якія ў суровых акупацыйных варунках стараліся ратаваць беларускую культуру. Зусім новай акалася для мяне інфармацыя аб тым, што ў 1943 годзе ў тэатры ў Мінску савецкія партызаны падлажылі бомбу. У выніку яе разрыву загінула многа дзяцей, у тым ліку і сын паэткі, Яраслаў. Апрача гэтага ва ўступе Антона Адамовіча знайшоў я вялікую колькасць іншых невядомых мне фактаў з жыцця і творчасці Арсенневай. Крытык даў таксама шэраг арыгінальных ацэнак яе творчасці, у якіх прадставіў велічную фігуру гэтай паэткі.

Калі ў 1981 годзе паехаў я першы раз у ЗША і сустрэўся з Антонам Адамовічам, дык закідаў яго пытаннямі адносна беларускай літаратуры ўвогуле і асабліва творчасці Наталлі Арсенневай. Антон Адамовіч аказаўся чалавекам, які валодае дасканалай памяццю і які ахвотна дзеліцца сваімі ведамі аб беларускіх пісьменніках. Крытык адвёў мне многа гадзін, падчас якіх дэталёва апавядаў пра Я. Купалу і Я. Коласа, М. Гарэцкага і М. Зарэцкага. Многа часу адвёў ён таксама постаці Наталлі Арсенневай. Ацэнка творчасці паэткі, дадзеная Антонам Адамовічам, была адназначная. Лічыў яе найвыдатнейшай беларускай паэткай на працягу ўсёй гісторыі Беларусі сярод жанчын і адным з найвыдатнейшых паэтаў. Выдатны крытык звяртаў увагу на пастаянную эвалюцыю Яе творчасці, на тое, што паэтка ніколі не задавальнялася дасягнутым і заўсёды шукала новых шляхоў для свае паэзіі. Паводле Антона Адамовіча, гады і праміnанне як бы не мелі ўплыву на паэзію Арсенневай, не былі ў стане загнаць Яе творчасць у нейкі шаблон і акасцянелась. Творчасць паэткі была заўсёды з'явай вольнай і незалежнай і калі каму будзе падпарадкоўвацца, дык толькі лёсу ўласнага народа.

Чытаючы і перачытваючы вершы паэткі Арсенневай я пераканаўся, што гэта праўда. Сапраўды, Яе творчасць была вернай дачкой беларускага лёсу.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# МЕДУНІЦА ЛЕЧЫЦЬ ЛЁГКІЯ

Медуніца аптэчная (*Pulmonaria officinalis* L.) гэта расліна, якая расце ў паўднёвай і сярэдняй Еўропе. Можна яе знайсці ў лесе і зарасніках. Сцябло яе расце да 30 см, яно мае шмат галін. Лісце з верхняга боку бывае зазвычай у белыя плямкі (па-польску: miodunka plamista). Некаторыя лісткі па сваёй форме напамінаюць лёгкае, адсюль лацінская назва расліны. Кветкі прамяністыя, ружовага або чырвонага колеру, пазней — фіялетавага. Уся расліна пакрыта валаскамі.

Для лячэння збіраюць ад сакавіка да мая верхнія цвітучыя часткі сцябла, пакідаючы ніжнюю частку, каб парасткі хутчэй адрасталі. Сушаць іх у натуральных або ацяпляемых сушарнях у тэмпературы да 35° C, расклаўшы тонкім, адзінарным пластом. Атрымліваюць такім чынам зёлкі медуніцы аптэчнай — *Herba Pulmonariae*.

Экстракты з зёлак медуніцы карысна ўплываюць на слізістую абалонку дыхальных шляхоў. З'яўляюцца яны дапаможным лекам пры хваробах лёгкіх, асабліва пры туберкулёзе і запаленні лёгкіх, а таксама пры пашкоджанні лёгкіх пылам вугалю, цэменту, азбесту ды параю кіслот, нафтапрадуктамі, выхлапнымі газамі, дымам. Асабліва рэкамендуюцца прэпараты з медуніцы тады, калі пералічаныя хваробы суправаджае сухі кашаль, цяжкое адкашліванне, хрыпка і боль горла. Рэкамендуюць іх таксама піць тады, калі хворы прымае вялікую колькасць лякарстваў супраць туберкулёзу, якія могуць пашкодзіць слізістую абалонку страўніка, або антыбіётыкаў, якія некарысна ўплываюць на слізістую абалонку лёгкіх і мачавых шляхоў, а таксама пры запальных станах нырак і мачавога пузыра.

Калі хворы будзе прымаць зёлкі медуніцы ў рэкамендуемых дозах, няма падставы непакоіцца, што гэтыя прэпараты могуць яму пашкодзіць. Большыя ж дозы адвару выклікаюць запоры, а апрача таго павялічваюць выдзяленне мачы.

## ПРЭПАРАТЫ

**Адвар з зёлак медуніцы**

2 лыжкі зёлак заліць 2 шклянкамі цёплай вады. Падаграваць да кіпення і варыць на невялікім агні пад покрыўкай. Зёлкі павінны яшчэ настойвацца 5 мінут, а тады трэба іх працадзіць у тэрмас. Піць па 1/3—2/3 шклянкі некалькі разоў у дзень пасля яды. Адвар мае ўжо пералічаныя вышэй якасці сыравіны. Каб узмоцніць мінералізуючыя якасці зёлак, можна дадаць пароўну зёлак спарышу (драсёну птушынага) і лісця крапівы.

**Зёлкі пры хваробах лёгкіх**

Змяшаць па 25 г зёлак медуніцы, хвашчу, зябру звычайнага (*poziewnik szorstki*), спарышу і лісця трыпутніку (*babka*). Заліць 1 лыжку сумесі 2 шклянкамі халоднай вады, падаграваць да кіпення і варыць на малым агні пад покрыўкай 15 мінут. Настойваць яшчэ 15 мінут, працадзіць. Піць 2—3 разы ў дзень па 1/2 шклянкі паміж ядою як мінералізуючы дапаможны сродак пры туберкулёзе, а таксама сродак, змяншаючы шкоднае ўздзеянне лякарстваў супроць туберкулёзу.

**Зёлкі пры коклюшы і ангіне**

Змяшаць па 20 г зёлак медуніцы і лісця трыпутніку ды па 30 г зёлак чабару і амялы. Заліць 2 лыжкі зёлак у тэрмасе 1 1/2 шклянкі кіпетню, зачыніць і паставіць на 1 гадзіну. Піць 3—4 разы ў дзень 1/4—1/3 шклянкі пасля яды. Малым дзецям даваць па 1 чайнай лыжачцы, старэйшым — па 1 сталовай лыжцы.

**Зёлкі для адхарквання**

Змяшаць па 20 г зёлак медуніцы, блюшчыку плюшчападобнага (*bluszczyk kurdybanek*), крываўніка і лісця падбелу. Заліць 2 лыжкі зёлак 2 1/2 шклянкамі гарачай вады, падаграваць да кіпення і варыць на малым агні пад покрыўкай 5—10 мінут. Настойваць 15 мінут, працадзіць. Піць малымі глыткамі 1/2—2/3 шклянкі 3—4 разы ў дзень паміж ядою пры кашлі, запаленні лёгкіх і хрыпцы.

**ЭСКУЛАП**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне цікавы сон. Быццам плывем мы па разводдзі. Нейкае неглыбокае возера, разлітая рэчка. Мы пераплываем гэта возера-рэчку. Я пачынаю трымацца ні то за дошку, ні то за нейкі паднос, а на ёй ляжыць смажаная рыба. Такія прыгожыя кавалкі, у цесце. Я бачу ўсё гэта. Іншыя людзі плывуць, трымаюцца за свае дошкі, прамавугольныя, як паднос, і на іх таксама ляжыць смажаная рыба. Што гэты сон можа абазначаць?

Міра

Астроне! Сніцца мне, быццам трымаю я на руках немаўлятка. Нібы дзяўчынка гэта. Можа, ёй месяцы 2—3. Дзяўчынка цудоўная. Ведаю аднак, што ёй хочацца піць, але ў мяне няма вады. Я раблю, што магу, каб памагчы гэтаму дзіцятку, прытуляю яго моцна да сябе, прыкладаю яму да губак свой язык, каб хоць слінай сваёй напаіць яго. І раптам заўважаю, што ў мяне ж ёсць малачко ў бутэлечцы, але я канкрэтна ведаю, што дзіця хоча вады і малаком не нап'ецца. Усё роўна пачынаю паіць дзяўчынку і яна супакойваецца, пачынае смактаць малачко.

**Анна**

Міра! Твой сон не надта добры. Тая разлітая вада, разводдзе сведчаць аб нейкіх клопатах і няўдачы. Можа, усё гэта вынікне з прычыны хваробы, якую прадвяшчала б тая смажаная рыба, хаця і былі на тваім падносе прыгожыя кавалкі.

А твой сон, Анна, гаворыць за тое, што табе павядзецца ў жыцці (калі сніш дзіця, чакае цябе поспех і прыбытак), але ты пры гэтым будзеш мець шмат захадаў і працы (клопаты пра дзіцятка, якое трэба напаіць).

**АСТРОН**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. від папугая, 3. закрытая прастора, 5. весялун, непаседа, 7. летняй раніцай на траве, 9. ніз, 10. член фракцыі, 11. манаршае крэсла, 12. дзяржава ў Заходняй Афрыцы, 14. мясцовасць, дзе нарадзіўся св. Гаўрыіл Заблудаўскі, 16. прылягае да шыі, 17. паласа вырабленай скуры.

**Вертыкальна:** 1. кладоўка, 2. частка конскай вупражы, 3. хатняя жывёла, 4. перад ім шлюб, 6. вораг прагрэсу, 8. мужчынскае імя, 9. прадукт мужчынскіх палавых залозаў, 11. тонкі кусок дрэва, шчэпка, 13. праліўны дождж, 14. дзікая жывёла, 15. жаночае імя.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 4 н-ра:** Ашмяны, пашана, клапан, веялка, Невада, дарога, камора, ракета, трызна, пазыка, паліва, Нясвіж.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазонавіч з Навінаў-Вялікіх і Лукаш Пацэвіч з Беластока.**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**САЛАТА З ФАСОЛІ**

Прадукты:
*1 1/2 шклянкі дробнай фасолі,*
*1 кіслы агурок,*
*1 яблык,*
*1 малая цыбулька,*
*20 дэкаў густой смятаны,*
*1 лыжачка вострай муштарды,*
*1 варанае яйка,*
*соль, перац, змолатая папрыка,*
*зяляніна пятрушкі.*

Фасолю памыць і намачыць на некалькі гадзін (а найлепш нанач) у халоднай вадзе. Зварыць у той самай вадзе, у якой яна мачылася. Адцадзіць. Дадаць дробна нарэзаныя агурок, яблык, цыбулю і яйка. Перамяшаць са смятанай, муштардай і прыправамі. Пасыпаць пасечанай зялянінай пятрушкі.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ШТО ДУМАЮЦЬ ІНШЫЯ

*Мы атрымоўваем лісты не толькі ад беларусаў. Часам сваімі думкамі дзеляцца з намі мясцовыя палякі, але ў большасці выпадкаў гэтая карэспандэнцыя не надаецца да друку. Аднак, часам варта прачытаць яе, каб ведаць, што думаюць пра нас іншыя, асабліва, калі пішуць вельмі спантанна. Сёння друкуем толькі фрагменты аднаго з лістоў, якія адлюстроўваюць усе міфічныя ўяўленні мясцовых палякаў пра нас, беларусаў. Палітычныя меркаванні і сімпатыі аўтара ліста, кранаючыя агульнавядомых асоб, як малаважныя для нас, мы ў тэксце прапусцілі.*

**Рэдакцыя**

## Spryty i chwyty

W „Gazecie Współczesnej” z dnia 17. 12. 1993 r. ukazała się rozmowa Eugeniusza Mironowicza i Sławomira Raube. Chytry podstęp. Katoliccy duchowni raz wspomnieli o napastujących prawosławnych, a prawosławni piszą artykuły i usprawiedliwiają swoje agresywne zmagania, jak gdyby katolicy prawosławnym chleb wydzielali. Wy, towarzysze Mironowicz i Raube o poglądach stalinowskich, nie znacie pochodzenia wiary prawosławnej. To ja wam wyjaśnię. Na zjeździe biskupów w Konstantynopolu, biskup katolicki postawił veto i oświadczył, że będzie się żenić i że założy swoją wiarę „prawem moim sławioną”. I to jest skrót prawosławia. Od wieków nikt wam nie przeszkadzał wierzyć. Duchowni nie byli prześladowani tak jak katolicy i księża. Chyba wam to jest znane z historii i namacalne. Jeżeli nie wiecie, to wam przypomnę co się działo za cara. Jak prawosławni pomagali wydawać katolików na Sybir. Car budował cerkwie, a na budowę kościołów nie było miejsca. Popy chodzili po wsiach do katolików, w te słowa: jak będziesz prawosławnym, to na Sybir nie pojedziesz. I ludzie zapisywali się na prawosławie. No i co, towarzysze, może zaprzeczycie faktom. Przypomnijcie sobie co było za pierwszych Sowietów, kiedy Polskę zabrali do niewoli. Strach pisać. Dzieci prawosławne biły dzieci katolickie. Starzy mówili: **„здесь палячкі не падскочаць”, „паляцка морда, молчи”.** Prawosławni planowali kogo wywieźć na Syberię, a gdy wojsko polskie wracało z frontu strzelali do żołnierzy lub rżnęli nożami. Do niewoli żaden prawosławny żołnierz nie poszedł, wrócili do domu i cieszyli się, że polscy oficerowie zginęli w Katyniu. Znowu zaczęła się nagonka jak za cara. A kto wam dziś zabrania uczyć się rosyjskiego?

W 1945 r. drugi najazd wyzwolicieli. Powstała partyzantka AK, między innymi „słoniniarze”, którzy teraz domagają się odszkodowań. Nastał prawosławnym Raj na ziemi. Szli jak muchy do miodu do UB, milicji, partii. Do KBW wybierano prawosławnych Ukraińców by ci mordowali Polaków jak im się podobało. Zwierzał się jeden Ukrainiec, że jak było powstanie w Poznaniu (w 1956 r.) to wojsko składało się z samych Ukraińców i prawosławnych. Z nich tworzono brygady szturmowe, a później ZOMO. Co wy na to?

Prawie w całej Polsce na kierowniczych stanowiskach byli prawosławni, a katolików do łopaty. Prawosławni tyle za komuny nakradli, a teraz siedzą cicho w miastach, w swoich willach i udają pobożnych Polaków. (...) Wystąpię z wnioskiem, niech katolicy wyjadą z Rosji do Polski, a prawosławni niech jadą do Rosji. Będzie spokój i mniej zatargów. (...) Niech wreszcie zapanuje spokój wśród narodowości zamieszkujących w Polsce. (...) I po co takie nienawiści siać wzajemnie. (...) Jedynie wzajemy szacunek i zgoda nas uratuje.

**Rolnik**
**z powiatu sokólskiego**




**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Іранічныя радкі*
*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

### КАЖУЦЬ

*(заканчэнне)*

Кажуць, што для нас Расея
Ї сажне, і ўсё пасее,
Толькі нам патрэбна з ёй
Жыць дзяржаваю адной,
Будзе ў нас тады й культура,
А пакуль што — авантура.
Ї ніхто пра нас не знае,
Ї наогул нас чакае
Без Расеі цёмны час.
Кажуць, што навукі ў нас
Не было і век не будзе,
Бо не здатныя мы людзі
Да навук, што сёння ў свеце,
Ї ў галовах нашых — вецер.
Кажуць, што ўсё ўжо можна,
Праўда, толькі асцярожна,
Бо і сцены вушы маюць
Ї пра ўсё, дзе трэба, знаюць.
Ну а ты мяне, чытач,
Як ні так што, то прабач.
Знаю, я, што знаеш ты
Хто ў нас грэшны, хто святы
Ї хто што між нас тут кажа,
Нібы венікі ўсё вяжа.





*— Нічога не бойцеся, я сцягну вашу кроў аднаразовым шпрыцам!*
Мал. Пэтэра Урбана (*"Дзікабраз"*)

## СМЕХ У САНАТОРЫЇ

— Чаму хочаш разысціся са сваім Колем?
— Уяві сабе, учора прабудзіўся а трэцяй гадзіне ночы, пацалаваў мяне і сказаў, што яму пара ісці дадому.

* * *

— Асцерагаю цябе, як надалей будзеш па начах іграць у брыдж, пашукаю сабе каханка, — пагражае жонка мужу.
— Добра, толькі не з ліку маіх партнёраў.

* * *

— Над дамавінай нябожчыка выступае сябра:
— ... і пакінуў у няўцешным жалю маладую трыццацігадовую ўдаву...
— Дваццацівасьмігадовую, — папраўляе заплаканая жанчына.

* * *

На ўроку матэматыкі настаўнік пытае вучня:
— Колькі гадоў чалавеку, народжанаму ў 1934 годзе?
— Гэта залежыць...
— Ад чаго?
— Ці гэта мужчына, ці жанчына.

* * *

— Мамачка, перад нашымі дзвярамі стаіць трох мужчын і спяваюць.
— Сыночак, дай ім крыху грошай і скажы, каб сабе пайшлі.
— Ой, хіба не выпадае...
— Чаму?
— Бо адзін з іх гэта наш татка.

* * *

Кавальскаму памерла жонка. Вярнуўся ён з пахавання, выняў бутэльку гарэлкі, сеў за стол і выпівае. У гэты момант з'яўляецца яго сябра:
— Ну, цяпер табе бутэлька — адзіная суцяшальніца?
— Не, у халадзільніку маю яшчэ адну...

* * *

— Скажы мне, Янка, дзе знаходзіцца Занзібар, — пытае настаўнік на ўроку геаграфіі.
— Я яшчэ замалады, каб усе бары ведаць.

* * *

— Мірка, твой малодшы брат бачыў, як я цябе цалаваў. Што яму даць, каб не сказаў пра гэтае твайм бацькам?
— У такіх сітуацыях ён заўсёды дастаў 50 тысяч злотых.

* * *

— Прачніся, прачніся! — трасе мужа за плячо жонка сярод ночы.
— Што здарылася, дарагая?
— Нічога не здарылася. Папросту, не разумею, як можаш так спакойна спаць, атрымоўваючы такую мізэрную зарплату!

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ЛІТАРАТУРНЫЯ ЗДАНІ

#### Палескія рабінзоны

Часам здараецца, што, здавалася б, цалкам бяскрыўдныя героі дзіцячае літаратуры, зрабіўшыся зданямі,ператвараюцца ў змрочных маньякаў-забойцаў. Так здарылася і з героямі любімай шматлікімі пакаленнямі беларускай савецкай дзятвы кніжкі „Палескія рабінзоны".

У Тураўскім раёне Гомельскай вобласці, вядомай дзікай прыродай, цнатлівымі норавамі жыхароў і моцным радыектыўным забруджаннем, адбылася серыя загадкавых, жорсткіх забойстваў. Злачынствы былі падобнымі адно да аднаго — бескарыслівыя і пазбаўленыя здаровага сэнсу. Відавочна, спраўцамі кожнага разу былі адны і тыя ж людзі. У пушчах Палесся знікалі цэлыя турыстычныя групы, не кажучы ўжо пра аматараў-адзіночак. Праз некаторы час ахвяраў знаходзілі прывязанымі калючым дротам да дрэваў, скалечаныя трупы са слядамі жорсткіх і вытанчаных катаванняў былі затаптаны ў багну, але следчых пракуратуры дзівавала, што і грошы, і дакументы, і турыстычныя прылады заставаліся некранутымі. Знікалі адно сякеры, нажы, вяроўкі, штопары, відэльцы, паляўнічыя стрэльбы — усе прадметы, прыдатныя для адмысловых забойстваў ды мудрагелістых катаванняў. Следчыя пракуратуры доўга не маглі даць рады, бо злачынцы нікога не пакідалі жывымі.

Але аднойчы пасля таго, як у палескіх балотах бясследна знікла дэлегацыя МАГАТЭ, на пошукі былі кінутыя вайсковыя падраздзяленні. Жаўнеры знайшлі напаўжывога перакладчыка, які перад смерцю распавёў наступнае: у начы на іх лагер напалі двое невядомых, па выглядзе — падлеткаў. Падлеткі звязалі дэлегацыю МАГАТЭ элекрадротамі ад вымяральных прыбораў і запатрабавалі прызнацца ў тым, што дэлегаты — шпіёны санацыйнай Польшчы толькі на той падставе, што палаткі былі польскае вытворчасці. Злачынцы лупцавалі дэлегатаў МАГАТЭ доўбнямі, абцягнутымі скурай вожыка і прымушалі паказаць месца, дзе закапаныя радыястанцыя, парашуты і выбуховыя рэчывы. А паколькі ніхто з небаракаў-навукоўцаў, натуральна, не мог паказаць гэтага месца, падлеткі пачалі забіваць ахвяраў адна за адным страшнымі доўбнямі. Пашэнціла аднаму перакладчыку: ён скеміў прызнацца, нібыта ён ёсць праўдзівым шпіёнам санацыйнае Польшчы, і выконвае сакрэтнае даручэнне маршалка Фоша, а шпіёнскае аснашчэнне закапана на балотнай выспе. Падлеткі зліталіся над ім і пакінулі падыхаць, прывязанаму да дрэва калючым дротам. Тым не меней прачэсванне лесу вайскоўцамі не дало станоўчых вынікаў.

Такі стан рэчаў існаваў працяглы час, пакуль нарэшце сын пракурора не прызнаўся бацьку, што ва ўсім вінаваты іхні выкладчык беларускай літаратуры, які напачатку навучальнага года наладзіў са сваімі вучнямі спірытычны сеанс па выкліканню ўлюбёных літаратурных вобразаў — палескіх рабінзонаў. Спірытычны сеанс быў наладжаны падчас экскурсіі ў радыектыўную пушчу. Перад зляканымі падлеткамі з'явіліся двое камсамольцаў з рамана Янкі Маўра з доўбнямі, абцягнутымі вожыкавай скурай. Напалоханыя дзеці і настаўнік кінуліся наўцёкі, а навасвораныя літаратурныя пачвары заняліся сваёй звыклай, вызначанай сюжэтам справай — пошукамі і ліквідацыяй шпіёнаў і дыверсантаў.

Высветліўшы акалічнасці гэтае справы, пракурор выклікаў дэзактыватараў і яны дэматэрыялізавалі палескіх рабінзонаў.

Гэтая гісторыя яшчэ раз пацвярджае, што прапаганда жорсткасці і гвалту на старонках дзіцячае літаратуры, памножаная на Чарнобыльскую навалу, можа даць непрадказальныя па сваіх наступствах вынікі.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**

## СЕНТЭНЦЫЇ

Свердлам зямлі не прабурым.

* * *

Полымя болю слязой не пагасіш.

* * *

Кульгавы кот зловіць толькі свой хвост.

* * *

Свет — гэта рэшта і Мы.

**БАРЫС РУСКО**





Можа, ты мне, Сэрцайка, не паверыш і падумаеш, што тое, што пішу табе, гэта звычайны жарт. Але, клянуся табе, усё, што здарылася са мною нядаўна — чыстая праўда.

А дзяўчына была — прыгажуня. Сапраўды, падабалася мне, як ніводная з цэлай арміі знаёмых дзяўчат. І я так марыў пра яе, што, калі надарылася нагода сустрэцца ў інтымных абставінах, проста шчасцю свайму не верыў. Я ведаў, колькі хлопцаў ганялася за ёю, а яна вось жа выбрала мяне! Ніколі я нават не падумаў, што нашае знаёмства так кепска скончыцца.

Але слухай па чарзе. Першы раз нам давялося спаткацца ў пасцелі (мы — студэнты), калі сябрава жонка выехала да бацькоў. Ён запрасіў нас да сябе і паказаў, дзе ў іх ложак. Я, вядома, быў у гэтых справах ужо даволі вопытны. Вельмі хутка выяснілася, што і ёй нічога не бракавала. Але вось бяда: нічога ў мяне не выходзіла. Дзяўчына проста гарэла, была перапоўнена, як мне здавалася, пачуццём, а я нічога не мог ёй даць! Божа мой, колькі ж ужо дзяўчат прайшло праз мае рукі, ніводная не наракала на мае „валёры", а тут паявіўся нехта, каго я быў бы ў стане пакахаць на ўсё жыццё і... нічога.

Дзяўчына была разумная і талерантная. Мы надалей сустракаліся — то ў яе сяброўак, то на нейкай забаве, а часамі ў кавярні. Заўсёды былі мы ў даволі шматлікай кампаніі, дык на нейкае інтымнае спатканне не было надзеі. Мы ж былі не з Беластока: і я, і яна жылі ў людзей, а хто ж дазволіць, каб там збіраліся госці...

Але вось аднойчы нам удалося сустрэцца ізноў. Былі якраз імяніны аднаго нашага асістэнта, і наша група сабрала грошы і купіла яму кветкі і падарунак. Асістэнт быў прыемна здзіўлены і, карыстаючы з тае нагоды, што жонка яго была якраз у санаторыі, запрасіў дахаты ўсю нашу групу. Вядома, усе не прыйшлі, але чалавек шэсць у яго сабралася. Прыйшлі і мы. Сядзелі за сталом і закусвалі. Я крыху дапамагаў гаспадару на кухні. А пасля прыйшла і яна. Асістэнт неўзабаве пайшоў да гасцей, а мы засталіся. Выключылі святло. Што гэта было за каханне! На стале, на шафках, дзе толькі можна было прыткнуцца, былі мы. Я не мог адарвацца ад дзяўчыны. Усё ўва мне кіпела і пружынілася, як ніколі, і я ўжо быў амаль шчаслівы, да толькі вось ніяк не мог скончыць гэтай нашай забавы. Я ад шчырага сэрца шаптаў ёй на вуха: „Толькі з табою!..", але мінула ўжо з паўтары гадзіны як мы пачалі кахацца, а канца не было відаць. Заглянуў адзін госць, махнуў рукой, другі: маўляў, цяпер не ўвойдзеш... Трэба было выходзіць да гасцей. Я ведаў, што шчасліва прадэманстраваў дзяўчыне свае магчымасці, але не быў упэўнены, ці цалкам задаволіў яе, бо фактычна ж мы скончылі без заканчэння, але закончыць я чамусьці не мог.

Ї так не выйшла ў мяне як трэба другі раз. Трэці раз быў неспадзявана гвалтоўны і цудоўны. Мы валачыліся па горадзе, прытуляліся і размаўлялі. Тады купілі супольна бутэльку віна і выпілі на скверы. Я адчуваў, што мушу сёння яе мець. Пайшлі мы ў куток сквера, там, за дрэвамі, была нейкая вялізная яма, парослая кустамі і мы туды схаваліся. Было цудоўна, як ніколі. Усё выйшла так, што лепш не трэба. Я меў падставы да таго, каб ганарыцца. Ды толькі вось пасля ўсяго пачуў нейкі непрыемны пах; відаць, залезлі мы ў яму з нечыстотамі. Гэты смурод праследаваў мяне цэлы тыдзень, колькі я не мыў і не чысціў сваіх бацінак.

Я не зарызыкаваў дамаўляцца на чацвёртую сустрэчу. А, зрэшты, і дзяўчына перастала мне імпанаваць.

Пятрусь

Пятрусь! Табе неадкладна трэба паказацца лекару-псіхіятру.

**СЭРЦАЙКА**